Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!




# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). — Падпісная плата на год 5 р. і на $^1/_2$ г. 2 р. 50 к.

VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 15 (89) | 10 ліпеня 1930 г. | № 15 (89)

## ЗЬМЕСТ

Пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.



## Пастановы Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР.

### Паст. 129. Абежнік з накіраваньнем клясіфікацый расходаў і даходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31 г. і інструкцыі і тлумачэньня па ўжываньні паказаных клясіфікацый.

Пры гэтым дадаюцца для кіраваньня пры складаньні мясцовых бюджэтаў на 1930/31 год, зацьверджаныя НК Фінансаў Саюзу ССР:

1) клясіфікацыя расходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31 г.,
2) інструкцыя па яе ўжываньні,
3) клясіфікацыя даходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31 г. і
4) тлумачэньне да паказанай клясіфікацыі даходаў.

Разам з гэтым паведамляецца для кіраваньня, што адзіная клясіфікацыя складзена як для мясцовых бюджэтаў саюзных рэспублік, так і для бюджэтаў аўтаномных саюзных рэспублік, а таксама ў клясіфікацыі ўлічана намечаная зьмена заканадаўства ў часьці ўзаемаадносін дзяржаўнага бюджэту з мясцовым і прадугледжаны каштарысныя

падразьдзяленьні для тых расходаў, якія ў мясцовым бюджэце да гэтага часу сустракаліся як выпадковыя, але ў бліжэйшай будучыне павінны будуць мець сталы масавы характар.

Таму, пры складаньні мясцовых бюджэтаў па БССР на 1930/31 г. значная частка расходнай клясіфікацыі ня будзе скарыстана з аднаго боку з-за таго, што некаторых расходаў па мясцовых бюджэтах БССР зусім няма, а яны маюць месца толькі ў іншых саюзных і аўтаномных рэспубліках, а з другога боку таму, што некаторыя расходы ў 1930/31 г. па мясцовых бюджэтах яшчэ ня пройдуць, як ня высунутыя жыцьцём і не атрымаўшыя заканадаўчага афармленьня.

Пры складаньні мясцовых бюджэтаў на 1930/31 год расходную клясіфікацыю трэба скарыстоўваць толькі ў той частцы, якая адпавядае тым законным расходам мясцовых бюджэтаў, якія маюць месца на тэрыторыі мясцовых саветаў БССР.

Выходзячы з гэтага, пры друкаваньні ня мясцох клясіфікацыі для ўжываньня яе пры складаньні бюджэтаў на 1930/31 год акруговыя фінансавыя аддзелы павінны выключыць з агульна-саюзнай клясіфікацыі тыя з пералічаных у ёй даходы і расходы, якія зусім ня маюць месца на тэрыторыі акругі.

У гэтым напрамку акр. фін. аддзелы павінны даць паказаньні і раённым выканаўчым камітэтам.

Пры дачы-ж паказаньняў сельскім саветам аб складаньні сельскіх бюджэтаў, раённыя выканаўчыя камітэты павінны, выходзячы з зробленнага імі разьмеркаваньня паміж сельсаветамі і райвыканкомам даходаў і расходаў, канкрэтна паказаць сельскім саветам, якія каштарысныя падразьдзяленьні павінны застацца ў бюджэце сельскага савету.

Пры гэтым НК Фінансаў лічыць больш мэтазгодным, каб вызначэньне каштарысных падразьдзяленьняў для бюджэтаў сельскіх саветаў было зроблена ня толькі ў пісьмовай форме, а таксама і ў форме жывога інструктажу працаўнікоў сельскіх саветаў на спэцыяльна скліканай пры райвыканкоме інструкцыйнай нарадзе па пытаньню аб складаньні сельскіх бюджэтаў.

Разам з тым НК Фінансаў падкрэсьлівае, што пры ўсялякіх скарачэньнях каштарыснай клясіфікацыі нумарацыя каштарысных падразьдзяленьняў, паводле дадзенай інструкцыі, ні ў якім выпадку не павінна зьмяняцца, а ўсе маючыя месца ў бюджэтах мясцовых саветаў БССР даходы і расходы павінны паказвацца па клясіфікацыі пад тымі нумарамі, якія вызначаны ў агульна-саюзнай клясіфікацыі.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Начальнік Бюджэтнага Кіраўніцтва
НКФ БССР *М. Кардашэнка.*

28 чэрвеня 1930 г.
№ 2001—3.



Дадатак 1-шы.

# Клясіфікацыя расходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31 г.

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падраздзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| | | **Разьдзел I.** | |
| | | **Прамысловасьць.** | |
| 1 | сетка | Мясцовае кіраўніцтва (інспэктура) . . | IX—1 |
| 2 | 8,9 | Прамысловасьць, плянуемая ВСНГ . . | „—4,5 |
| 3 | 3,4,6 ці 8,9 | Прамысловасьць іншых ведамстваў . . | IX—2,3,4,5 |
| 4 | 8,9 | Прамысловая капярацыя . . . . . | — |
| 5 | — | Адлічэньні ў амартызацыйны фонд мясцовае прамысловасьці . . . . . . | XIV—15 |
| 6 | — | Адлічэньні ў спэцыяльны капітал доўгатэрміновага крэдытаваньня дзяржаўнае прамысловасьці і электрагаспадаркі мясцовага значэньня . . . . . . . . | „—5 |
| | | **Разьдзел II.** | |
| | | **Электрыфікацыя.** | |
| 1 | 8,9 | Раённыя станцыі . . . . . . . | XV—11 |
| 2 | 3,4,6 ці 8,9 | Мясцовыя станцыі . . . . . . . | XI—7 |
| 3 | 3,4,6 ці 8,9 | Сельскія станцыі . . . . . . . | — |
| 4 | — | Адлічэньні ў спэцыяльны капітал доўгатэрміновага крэдытаваньня дзяржпрамысловасьці і электрагаспадаркі мясцовага значэньня . . . . . . . . | XIV—5 |
| | | **Разьдзел III.** | |
| | | **Сельская гаспадарка.** | |
| 1 | сетка | Мясцовае кіраўніцтва (апроч мясцовага кіраўніцтва лясамі) . . . . . . . | VIII—1 |
| 2 | 8,9 | Саўгасы . . . . . . . . . | „—17 |
| 3 | „ | Агра-індустрыяльныя камбінаты . . . | — |
| 4 | „ | Каперацыйныя машынна-трактарныя станцыі. | — |
| 5 | „ | Калгасы зернавыя. . . . . . . . | VIII—17 |
| 6 | „ | „ жывёлагадоўчыя . . . . . | — |
| 7 | „ | „ тэхнічных культур . . . . . | — |
| 8 | „ | „ садова-гародныя . . . . . | — |
| 9 | „ | „ іншыя . . . . . . . | — |
| 10 | 9 | Сельска-гаспадарчая капярацыя . . . | — |
| 11 | 3,4,6 або 8,9 | Прадпрыемствы па першапачатковай перапрацоўцы с.-г. прадуктаў . . . . | — |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 12 | 3,4,6 | Земляўпарадчая сетка . . . . . . | VIII—11¹—11¹ |
| 13 | „ | Земляўпарадкаваньне . . . . . . | „ |
| 14 | сетка | Установы па мэліярацыі . . . . . | VIII—10 |
| 15 | 3,4,6 | Мерапрыемствы па мэліярацыі і культуртэхніцы. . . . . . . . . . | „ —10 |
| 16 | 3,4,6 | Вышуканьне і ўпарадкаваньне перасяленчаскага колёнізацыйнага фонду . . . | „ |
| 17 | сетка | Агранамічныя вучасткі . . . . . . | „ — 2 |
| 18 | сетка | Установы па расьлінаводзтву . . . | „ — 4 |
| 19 | 3,4,6 | Мерапрыемствы па расьлінаводзтву . . | „ — 4 |
| 20 | „ | Барацьба са шкоднікамі . . . . . | „ — 5 |
| 21 | „ | Вэтэрынарная сетка . . . . . . | „ — 7 |
| 22 | сетка | Вэтэрынарна-санітарныя ўстановы . . | „ — 8 |
| 23 | 3,4,6 | Вэтэрынарна-санітарныя мерапрыемствы . | „ |
| 24 | сетка | Установы па жывёлагадоўлі . . . . . | „ — 6 |
| 25 | „ | Барацьба з эпізаотыямі . . . . . | „ — 9 |
| 26 | „ | Мерапрыемствы па буйнай рагатай мясной жывёле . . . . . . . . | „ |
| 27 | „ | Мерапрыемствы па малочнай жывёле . . | „ |
| 28 | „ | „ па разьвядзеньню авечак . | „ |
| 29 | „ | „ па сьвінагадоўлі . . . | „ |
| 30 | „ | „ па птушніцтву . . . | „ |
| 31 | „ | „ „ іншых відах дробнай жывёлагадоўлі . . . . . . . . | „ |
| 32 | 3,4 | Рыбаводзтва і рыбалоўства . . . . . | „ —14 |
| 33 | 3,4,6 | Агнятрывалае будаўніцтва . . . . . | „ —15 |
| 34 | сетка | Торпавая справа . . . . . . . | „ —13 |
| 35 | сетка | Расходы па мэтэаралёгіі . . . . . | — |
| 36 | 3,4,6 | Эксплёатацыя зямельнае маёмасьці . . | „ —11 |
| 37 | — | Адлічэньні ў фонд капераваньня і калектывізацыі сялянскай беднаты і батрацтва | XIV—17 |
| 38 | — | Адлічэньні ў фонд дапамогі бядняцкаму насельніцтву . . . . . . . | „ —10 |
| 39 | — | Адлічэньні у фонд па барацьбе з бур'янамі | „ —13 |
| 40 | — | Адлічэньні ў фонд забясьпечаньня харчаваньнем батракоў, уступаючых у сельска-гаспадарчыя калякытвы . . . . . | „ —29 |
| 41 | — | Адлічэньні ў фонд дапамогі пацярпеўшым ад кулацкага гвалту . . . . . | — |
| | | Разьдзел IV. | |
| | | **Водная гаспадарка.** | |
| 1 | 3,4,6 | Вышуканьні, досьледы і праектыроўка . . | XX |
| 2 | „ | Дробнае водна-гаспадарчае будаўніцтва . | „ |
| 3 | „ | Вопытна-дасьледчая праца . . . . . | „ |
| 4 | 9 | Узмацненьне зваротных сродкаў вадагаспадарчых арганізацый . . . . . . | „ |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 5 | сетка | Эксплёатацыя воднае гаспадаркі . . . | XX |
| 6 | — | Адлічэньні ў мясцовыя фонды рэгуляваньня воднае гаспадаркі . . . . . | XIV—24 |
| 7 | — | Адлічэньні ў рэспубліканскія фонды рэгуляваньня воднае гаспадаркі. . . . | „ —25 |
| | | **Разьдзел V.** | |
| | | **Лясная гаспадарка.** | |
| 1 | — | Лясная гаспадарка . . . . . | VIII—11 |
| | | **Раздзел VI.** | |
| | | **Камунальная і жыльлёвая гаспадарка.** | |
| 1 | сетка | Аддзелы камунальнае гаспадаркі . . . | X— 1 |
| 2 | „ | Муніцыпальная жыльлёвая гаспадарка . . | „— 2 |
| 3 | „ | Гандлёва-прамысловыя памяшканьні . . | „— 3 |
| 4 | „ | Расходы па дабрабыту . . . . . | „— 4 |
| 5 | „ | Супрацьпажарная ахова . . . . | „— 5 |
| 6 | „ | Гарадзкая зямельная гаспадарка . . . | „— 6 |
| 7 | 3,4,6 або 8,9 | Вадаправоды . . . . . . . . | XI—1 |
| 8 | „ | Каналізацыя і асенізацыя . . . | „—2,3 |
| 9 | „ | Бані і пральні . . . . . . | „ —11 |
| 10 | „ | Трамваі. . . . . . . . . | „ — 5 |
| 11 | 3,4,6 або 8,9 | Аўтобусы і таксі . . . . . . | „ — 6 |
| 12 | „ | Параходзтва і рачныя пераправы . . . | „ — 8 |
| 13 | „ | Грузавы транспарт . . . . . | „ —10 |
| 14 | „ | Газавыя заводы . . . . . . | „ — 4 |
| 15 | „ | Іншыя прадпрыемствы . . . . . | „ —11 |
| 16 | — | Адлічэньні ў спэцыяльны капітал жыльлёвага фонду . . . . . . | XIV— 2 |
| 17 | — | Адлічэньні ў спэцыяльны капітал крэдытаваньня рабочага жыльлёвага буданіцтва . | „ — 1 |
| 18 | — | Адлічэньні ў фонд крэдытаваньня камунальнае гаспадаркі . . . . . . . | „ —19 |
| 19 | — | Адлічэньні ў спэцыяльны капітал камунальнага дабрабыту рабочых пасёлкаў . . | „ —23 |
| 20 | — | У амартызацыйны фонд камунальных прадпрыемстваў . . . . . . . | „ — 4 |
| 21 | — | Адлічэньні ў камунальны фонд . . . | „ — 3 |
| 22 | — | Адлічэньні ў фонд садзейнічаньня ўступленьню рабочых у жыльлёвую будаўнічую капярацыю . . . . . . . . | „ —28 |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| | | Разьдзел VII. | |
| | | **Гандаль.** | |
| 1 | сетка | Мясцовае кіраўніцтва НК Гандлю . . . | — |
| | | Разьдзел VIII. | |
| | | **Транспарт.** | |
| 1 | сетка | Мясцовае кіраўніцтва (дарожны аддзел) . | XII—1 |
| 2 | „ | Шосавыя, грунтовыя, гравійныя дарогі мясцовага значэньня . . . . . . . | „ —2 |
| 3 | „ | Рачныя пераправы ў па-за гарадзкіх паселішчах . . . . . . . . . | „ —3 |
| 4 | — | Адлічэньні ў мясцовыя дарожныя фонды . | XIV—7 |
| 5 | — | Адлічэньні ў рэспубліканскі дарожны фонд . | „ —6 |
| 6 | — | Адлічэньні ў аўтамабільны фонд . . . | — |
| | | Разьдзел IX. | |
| | | **Народная сувязь.** | |
| 1 | сетка | Ямшчына, паштовая ганьба, кальцавая пошта і г. д. . . . . . . . . . | XII—4 |
| 2 | 3,4 | Удзельнічаньне гарсаветаў у мерапрыемствах па разьвіцьцю і пабудове тэлефонных сетак | „ —5 |
| 3 | сетка | Радыё . . . . . . . . . | — |
| | | Разьдзел X. | |
| | | **Асьвета.** | |
| 1 | сетка | Мясцовае кіраўніцтва (інспэкцыя) . . . | IV—1 |
| 2 | „ | Дзіцячыя сады, ачагі і пляцоўкі . . . | „ —14 |
| 3 | „ | Школы 1-й ступені . . . . . . | „ —6 |
| 4 | „ | Школы сямёхгодкі . . . . . . | „ —9 |
| 5 | „ | Фабрычна-завадзкія школы сямёхгодкі . . | — |
| 6 | „ | Школы 9-і 10-годкі . . . . . . | „ —9 |
| 7 | „ | Школы калгаснай (сялянскай) моладзі . . | „ —10 |
| 8 | „ | Школы 2-й ступені . . . . . . | „ —8 |
| 9 | „ | Школы пераросткаў . . . . . . | „ —7 |
| 10 | „ | Піонэр-рух і пазашкольная праца з дзецьмі і падросткамі . . . . . . . | — |
| 11 | „ | Дзіцячыя дамы, калёніі, гарадзкія камуны . | „ —11 |
| 12 | „ | Установы для дэфектыўных і цяжкавыхоўваемых дзяцей і сацыяльна-прававой аховы няпоўналетніх . . . . . . | „ —12 |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падраздзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 13 | 3,4,6 | Мерапрыемствы па барацьбе з дзіцячай бяспрытульнасьцю . . . . . . | IV—13 |
| 14 | „ | Мерапрыемствы па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці . . . . . . | „ —15 |
| 15 | сетка | Агульнаадукацыйныя работы сярод дарослых (курсы, лекцыі і г. д.). . . . . . | „ —17 |
| 16 | „ | Масавая партасьвета . . . . . . . | — |
| 17 | „ | Бібліятэкі . . . . . . . . . . | „ —16 |
| 18 | „ | Хаты-чытальні . . . . . . . . | „ |
| 19 | „ | Клюбы, дамы селянінна, народныя дамы, дварцы культуры, чырвоныя куткі (у тым ліку культурнае абслугоўваньне перасяленцаў) . . . . . . . . . | „ —17 |
| 20 | „ | Музэі і выстаўкі . . . . . . . . | „ —18 |
| 21 | „ | Турызм . . . . . . . . . . | — |
| 22 | „ | Тэатры і відовішчныя прадпрыемствы . . | „ —17,21 |
| 23 | „ | Кіно-тэатры, тэатры перасоўкі і г. д. . . | „ |
| 24 | „ | Масавыя мерапрыемствы па тэатральнаму і музыкальнаму мастацтву, мастацкая самадзейнасьць . . . . . . . | — |
| 25 | „ | Мастацкае афармленьне быту (убраньне гарадоў, выстаўкі-перасоўкі і г. д.) . . | — |
| 26 | сетка | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка масавых кадраў для прамысловасьці . . | IV—3,4 |
| 27 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка масавых кадраў для транспарту . . . | „ |
| 28 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка масавых кадраў для сувязі . . . . | „ |
| 29 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка масавых кадраў для сельскай гаспадаркі . | „ |
| 30 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка масавых кадраў для іншых галін гасп.. . | „ |
| 31 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка кадраў сярэдняй кваліфікацыі для промысловасьці . . . . . . . . . | „ —2,4 |
| 32 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка кадраў сярэдняй кваліфікацыі для гандлю . | „ |
| 33 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка кадраў сярэдняй кваліфікацыі для транспарту | „ |
| 34 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка кадраў сярэдняй кваліфікацыі для сувязі . | „ |
| 35 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка кадраў сярэдняй кваліфікацыі для сельскае гаспадаркі . . . . . . . . | „ |
| 36 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка кадраў сярэдняй кваліфікацыі для воднае гаспадаркі . . . . . . . . | „ |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 37 | сетка | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка сацыяльна-эканамічных кадраў сярэдняй кваліфікацыі (фінансы, права, плянаваньне) . | IV—2,4 |
| 38 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка сац.-палітычных кадраў сярэдняй кваліфікацыі | „ |
| 39 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка мэдыцынскіх кадраў сярэдняе кваліфікацыі . | „ |
| 40 | „ | Школьная і пазашкольная падрыхтоўка пэдагагічных кадраў сярэдняй кваліфікацыі . | „ |
| 41 | „ | Палітэхнікумы, сярэднія школы мешанага тыпу і інш. школы . . . . . . . | „ |
| 42 | „ | Рабфакі . . . . . . . . . | „ —5 |
| 43 | „ | Курсы падрыхтоўкі ў вышэйшыя навуч. ўстан. | — |
| 44 | „ | Падрыхтоўка вылучэнцаў у дзяржапарат. . | — |
| 45 | „ | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай кваліфікацыі для прамысловасьці . . . . . | — |
| 46 | „ | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай кваліфікацыі для гандлю . . . . . . . | — |
| 47 | „ | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай кваліфікацыі для транспарту . . . . . . | — |
| 48 | „ | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай кваліфікацыі для сувязі . . . . . . . | — |
| 49 | „ | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай кваліфікацыі для сельскае гаспадаркі . . . . | — |
| 50 | „ | Падрыхтоўка кадраў вышэйшай кваліфікацыі для воднае гаспадаркі . . . . | — |
| 51 | „ | Падрыхтоўка сац.-эканамічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі (фінансы, права, плянаваньне) . . . . . . . | — |
| 52 | „ | Падрыхтоўка сац.-палітычных кадраў вышэйшай кваліфікацыі (камун. вышэйш. нгвуч. установы) . . . . . . . | — |
| 53 | „ | Падрыхтоўка мэдыцынскіх кадраў вышэйшай кваліфікацыі . . . . . . . | — |
| 54 | „ | Падрыхтоўка пэдагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі . . . . . . . | — |
| 55 | „ | Падрыхтоўка кадраў па ўсходазнаўству вышэйшай кваліфікацыі . . . . | — |
| 56 | „ | Выш. навуч. установы мяшанага тыпу і інш. выш. навучальныя ўстановы . . . | — |
| 57 | „ | Навуков. і навуков.-дасьледч. установы . | — |
| 58 | — | Архівы . . . . . . . . . . | I— 5 |
| 59 | — | Фінансаваньне друку . . . . . | XV—10 |
| 60 | — | Адлічэньні ў пазычковы школ.-будаўнічы фонд | XIV— 8 |
| 61 | — | Адлічэньні ў пазычковы фонд будаўніцтва фабрычна-завадзкіх школ сямігодак . . | — |

| §§ | Артыку-лы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 62 | — | Адлічэньні ў пазычковы фонд па будаўніцтву сялянскіх політыка-асьветных устаноў . | — |
| 63 | — | Адлічэньні ў фонд будаўніцтва культурна-бытавых устаноў у буйных калгасах . | XIV—26 |
| 64 | — | Адлічэньні ў фонд дапамогі бяднейшым вучням пачатковых школ . . . . | „ —21 |
| 65 | — | Адлічэньні ў стыпэндыяльны фонд школ узвышанага тыпу . . . . . . . . | „ —20 |
| 66 | — | Адлічэньні ў фонд па ліквідацыі напісьменнасьці . . . . . . . . | „ —22 |
| 67 | — | Адлічэньні ў фонд імя Ў. І. Леніна (дапамогі бяспрытульным дзецям) . . . . . | „ — 9 |
| | | **Разьдзел XI.** | |
| | | **Ахова здароўя.** | |
| 1 | сетка | Аддзелы аховы здароўя (інспэктура) . . | V— 1 |
| 2 | „ | Больніцы (лячэбніцы) . . . . . . | „ — 2 |
| 3 | „ | Псыхіатрычныя лячэбныя ўстановы . . | „ — |
| 4 | „ | Лячэбныя ўстановы пры месцах зьняволеньня | „ — |
| 5 | „ | Урачэбныя пункты, адзіныя дыспансэры, амбуляторыі, зубаўрачэбныя габінэты. . | „ — 3 |
| 6 | „ | Фэльдшарскія пункты . . . . . . | „ — 4 |
| 7 | „ | Першая дапамога, дапамога на даму, хуткая дапамога . . . . . . . . . . | „ — 3 |
| 8 | „ | Установы і мерапрыемствы па барацьбе з сухотамі . . . . . . . . . . | „ — 9 |
| 9 | 6 | Пратэзаваньне . . . . . . . . | — |
| 10 | сетка | Установы і мерапрыемствы па барацьбе з вэнэрычнымі хваробамі . . . . . | „ — 9 |
| 11 | „ | Санаторыі . . . . . . . . . | „ — 5 |
| 12 | „ | Іншыя лячэбныя ўстановы і віды дапамогі (у тым ліку перасяленцам) . . . | — |
| 13 | „ | Бактэрыёлёгічныя і санітарна-гігіенічныя інстытуты, лябараторыі і пастэраўскія станцыі | V—7,8 |
| 14 | „ | Санітарныя ўрачы. . . . . . . . | „ — 8 |
| 15 | „ | Установы і мерапрыемствы па барацьбе з малярыяй . . . . . . . . . . | „ — 9 |
| 16 | „ | Установы і мерапрыемствы па барацьбе з прафхваробамі . . . . . . . | — |
| 17 | „ | Санітарна-эпідэмічныя ўстановы і мерапрыемствы . . . . . . . . . | „ — 8 |
| 18 | „ | Санітарна-асьветныя ўстановы і мерапрыемствы . . . . . . . . . | „ —10 |
| 19 | „ | Ясьлі для дзяцей . . . . . . . | „ — 6 |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 20 | сетка | Іншыя ўстановы і мерапрыемствы па ахове мацяры і дзіцяці . . . . . . | V—6 |
| 21 | „ | Ахова здароўя дзяцей і падлеткаў . . . | — |
| 22 | „ | Фізычная культура (у тым ліку саветы фізкультуры). . . . . . . . | I — 9 |
| 23 | „ | Курорты . . . . . . . . | „ — 5 |
| 24 | „ | Судова-мэдыцынская экспэртыза . . . | „ —13 |
| 25 | „ | Урачэбны кантроль . . . . . | — |
| 26 | — | Адлічэньні ў фонд будаўніцтва культурна-бытавых установ у буйных калгасах. . | XIV—26 |
| 27 | — | Адлічэньні ў фонд каляктывізацыі і аздараўленьня дзіцячага быту . . . . . | „ —27 |
| | | Разьдзел XII. | |
| | | **Арганізацыя і ахова працы і сацыяльнае забясьпечаньне працоўных.** | |
| 1 | сетка | Мясцовыя органы НК Працы . . . | VII— 3 |
| 2 | „ | Мясцовая інспэкцыя працы . . . | — |
| 3 | „ | Мясцовыя органы сацыяльнае забясьпекі . | VI— 1 |
| 4 | — | Палепшаньне быту рабочых і служачых . | — |
| 5 | сетка | Мерапрыемствы па палепшаньню працы і быту жанчын . . . . . . . . | — |
| 6 | „ | Біржы працы . . . . . . . | VII— 4 |
| 7 | „ | Мерапрыемствы па ахове працы і рынку працы . . . . . . . . . | — |
| 8 | „ | Працоўныя віды дапамогі беспрацоўным . | „ —1,2 |
| 9 | „ | Перакваліфікацыя беспрацоўных . . . | „ — „ |
| 10 | „ | Іншыя віды дапамогі беспрацоўным . . | „ — „ |
| 11 | „ | Утрыманьне інвалідаў вайны ў інвалідных дамох . . . . . . . . | VI—3,4 |
| 12 | „ | Утрыманьне сірот ва ўстановах Нарасьветы | -- |
| 13 | 8,9 | Фінансаваньне інваліднай капярацыі (капіталізаваныя пэнсіі) . . . . . . | „ —10 |
| 14 | — | Пэнсіі і дапамогі інвалідам вайны, іх сем'ям і сем'ям загінуўшых на вайне . . . | „ — 7 |
| 15 | — | Дапамога сем'ям асоб, прызваных у РСЧА . | „ — 8 |
| 16 | сетка | Утрыманьне інвалідаў працы ў інвалідных дамох . . . . . . . . . | „ —3,4 |
| 17 | „ | Працоўнае ўпарадкаваньне інвалідаў . . | — |
| 18 | — | Пэнсіі за выслугу гадоў мэдыцынскім і вэтэрынарным працаўнікам і іх сем'ям . . | — |
| 19 | — | Пэнсіі і дапамога састарэлым сялянам . . | — |
| 20 | — | Іншыя пэнсіі і дапамогі. . . . . . | „ — 6 |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 21 | — | Субсыдаваньне сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і адпаведных ім органаў . . | „ — 2 |
| 22 | сетка | Установы і мерапрыемствы па барацьбе з жабрацтвам і прастытуцыяй . . . | „ — 5 |
| | | **Разьдзел XIII.** | |
| | | **Удзел у гаспадарчых расходах часьцей і ўстаноў РСЧА.** | |
| 1 | — | Расходы па прызывах у РСЧА і пазавайсковай падрыхтоўцы . . . . . | XIII— 1 |
| 2 | сетка | Дробны рамонт вайсковых памяшканьняў . | „ — 2 |
| | | **Разьдзел XIV.** | |
| | | **Агульнае кіраўніцтва.** | |
| 1 | сетка | Выканкомы . . . . . . . . | I — 1 |
| 2 | „ | СНК аўтаномн. ССР . . . . . | „ — 1 |
| 3 | „ | Прадстаўніцтва крайвыканкомаў (аблвыканкомаў) і аўтаномных рэспублік. . . | — |
| 4 | „ | Гарсаветы . . . . . . . . | „ — 2 |
| 5 | „ | Сельсаветы . . . . . . . . | „ — 3 |
| 6 | „ | Саветы ў рабочых паселішчах . . . | „ —2,3 |
| 7 | „ | Мясцовыя плянавыя органы . . . . | „ — 7 |
| 8 | „ | Мясцовыя ўстановы НКФ . . . . | „ —12 |
| 9 | „ | Мясцовыя ўстановы РСІ . . . . | „ —12 |
| 10 | „ | НКЮсту і НКЮсты аўтаномн. ССР . . | III—11 |
| 11 | „ | НКУС аўтамомн. ССР (без Галоўн. Кіраўн. Кам. Гасп.) . . . . . . . | — |
| 12 | „ | Кіраўніцтва будаўнічага кантролю . . | I— 8 |
| 13 | 2 | Расходы, зьвязаныя з скліканьнем зьезду саветаў, сэсій і нарад.. . . . . | I—11 |
| 14 | „ | Правядзеньне выбарных кампаній. . . | „ |
| | | **Разьдзел XV.** | |
| | | **Судовыя і папраўчыя ўстановы.** | |
| 1 | сетка | Вышэйшыя суды аўтаномн. ССР . . . | III— 4 |
| 2 | „ | Пракуратура аўтаномн. ССР . . . . | „ — 5 |
| 3 | „ | Натарыят аўтаномн. ССР . . . . | „ — 6 |
| 4 | „ | Арбітражныя камісіі . . . . . | I— 4 |
| 5 | „ | Акруговыя суды . . . . . . | III— 7 |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| 6 | сетка | Народныя суды . . . . . . . | III— 1 |
| 7 | „ | Нарсьледчыя . . . . . . . | „ — 2 |
| 8 | „ | Папраўчыя ўстановы . . . . . . | II— 5 |
| | | Разьдзел XVI. | |
| | | **Ахова грамадзкага парадку.** | |
| 1 | сетка | Адміністрацыйныя аддзелы выканкомаў. . | II— 1 |
| 2 | „ | Міліцыя і арыштныя дамы . . . . . | „ — 2 |
| 3 | „ | Ведамсьцьвенная міліцыя . . . . . | „ — 3 |
| 4 | „ | Крымінальны вышук . . . . . . | „ — 4 |
| | | Разьдзел XVII. | |
| | | **Запасныя і рэзэрвныя фонды.** | |
| 1 | — | Фонды непрадугледжаных расходаў мясцовых саветаў . . . . . . . | XV— 1 |
| 2 | — | Адлічэньні ў рэзэрв па мясцоваму бюджэту (і бюджэтах аўтаномн. ССР) . . . | XIV—11 |
| | | Разьдзел XVIII. | |
| | | **Расходы па пазыках.** | |
| 1 | — | Плацяжы па мясцовых пазыках у крэдытных установах . . . . . . . . | XV— 2 |
| 2 | — | Плацяжы па аблігацыйных пазыках . . | — |
| | | Разьдзел XIX. | |
| | | **Розныя расходы.** | |
| 1 | — | Зварот няправільна атрыманых даходаў . | XV— 8 |
| 2 | — | Розныя убыткі, касавыя прачоты і г. д.. . | „ — 9 |
| 3 | — | Расходы РВК па збору акладн. страх. плац. . | — |
| | | Разьдзел XX. | |
| | | **Сродкі, перадаваемыя ўстановам сацстраху.** | |
| 1 | — | Сацыяльнае страхаваньне рабочых і служачых па арт. 1 . . . . . . . | — |
| 2 | — | Сацыяльнае страхаваньне рабочых і служачых па іншых артыкулах . . . . | — |

| §§ | Артыкулы | Назва расходаў | Адпаведныя падразьдзяленьні намэнклятуры 1929/30 г. |
|---|---|---|---|
| | | Разьдзел XXI. | |
| | | **Сродкі, адлічаемыя і перадаваемыя ў мясцовыя бюджэты.** | |
| 1 | — | Адлічэньні ад дзяржаўных падаткаў і даходаў у мясцовыя бюджэты . . . . | XIX—1,2 |
| 2 | — | Мэтавая дапамога . . . . . . . | „ —3,4 |
| | | Разьдзел XXII. | |
| | | **Сродкі, перадаваемыя іншым фінансавым інстытутам.** | |
| 1 | — | Адлічэньні ў фонды рэгуляваньня . . | XVII-XVIII |
| 2 | — | Адлічэньні ў фонд вопытнага будаўніцтва . | XIV—16 |
| | | Разьдзел XXIII. | |
| | | **Расходы за кошт сродкаў самаабкладаньня.** | |
| 1 | сетка | Па народнай асьвеце . . . . | — |
| 2 | „ | Па народн. ахове здароўя. . . . | — |
| 3 | „ | Па дарожнай гаспадарцы . . . . | — |
| 4 | „ | Па сельскай гаспадарцы . . . . | — |
| 5 | „ | Па дабрабыту і супраціпажарнай ахове . | — |
| 6 | „ | Па іншых галінах гаспадаркі . . . | — |

Дадатак 2-гі.

# Інструкцыя па ўжываньні клясіфікацыі расходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31 год.

*(зацьверджана Н. К. Фінансаў Саюзу ССР).*

## Агульная частка.

**Аб адзінай бюджэтнай клясіфікацыі ўвадзімай з 1930/31 г.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 23 мая 1930 г. („Изв. ЦИК СССР и ВЦИК“ за 25/V-30 г., № 142) з надыходзячага 1930/31 г. будзе распачата складаньне адзінага фінансававага пляну Саюзу ССР, як сводната пляну ўсіх фінансавых сродкаў аграмаджанага сэктару народнай гаспадаркі, што накіроўваюцца на ўкладаньні ў паасобныя галіны народнай гаспадаркі і на расходы па сацыяльна-культурным будаўніцтве, абароне і кіраваньньню Саюзу ССР (арт. 1 пастановы за 23/V-30 г.)

Пераход да сыстэмы адзінага фінансавага пляну патрабуе перагляду ўжываемых у паасобных фінансавых плянах клясіфікацый рас-

ходаў у напрамку ўстанаўленьня аднолькавай пабудовы іх, забясьпечваючы магчымасьць вылучэньня аднолькавых расходаў па паасобных фінплянах, а таксама вылучэньне гэтых расходаў у адзіны фінансавы плян. У сувязі з паказанай задачай, з 1930/31 бюдж. году ўводзіцца адзіная клясіфікацыя расходаў для дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў і бюджэту сацыяльнага страхаваньня. Прыстасоўваючыся да гэтай адзінай бюджэтнай клясіфікацыі пабудаваны будуць таксама і клясіфікацыі паасобных фінансавых плянаў, падлягаючых аб'яднаньню ў агульным пляне ўсіх фінансавых сродкаў аграмаджанага сэктару народнае гаспадаркі Саюзу ССР.

У аснову пабудовы расходнай часткі адзінай бюджэтнай клясіфікацыі пакладзены прынцып разьмежаваньня расходаў па іх мэтаваму прызначэньню. Па гэтаму прынцыпу ўсе расходы бюджэтнай сыстэмы паступова падзяляюцца на: а) групы, б) разьдзелы, в) падразьдзелы, г) параграфы і д) артыкулы. З паказанага падзелу асноўнымі зьяўляюцца разьдзелы, параграфы і артыкулы, і толькі па гэтых падзелах павінна ўтварацца складаньне, зацьверджаньне і выкананьне паасобных дыфэрэнцыраваных бюджэтаў. Групам-жа і падразьдзелам, уведзеным у бюджэтную клясіфікацыю, надаецца толькі дапаможнае значэньне і гэтыя падзелы прызначаюцца для аб'яднаньня аднолькавых катэгорый расходаў у сводах бюджэтаў і наступнай сыстэматызацыі расходаў у адзіным фінансавым пляне (аб парадку ўжываньня груп і падразьдзелаў у сыстыме мясцовых бюджэтаў паказана ніжэй).

*Расходныя групы.* У адзінай бюджэтнай клясіфікацыі расходы ў першую чаргу падзяляюцца на шэсьць груп:

Група „А“ — народная гаспадарка;
„ „Б“ — сацыяльна-культурныя мерапрыемствы;
„ „В“ — а б а р о н а;
„ „Г“ — к і р а в а н ь н е;
„ „Д“ — запасныя і рэзэрвныя фонды;
„ „Е“ — расходы па пазыках;
„ „Ж“ — розныя расходы;
„ „З“ — сродкі, перадаваемыя ў другія фінансавыя пляны.

*Разьдзелы.* Расходныя групы разьбіты на 22 разьдзелы. Разьбіўка на разьдзелы зроблена ў асноўным па адзнацы галін народнай гаспадаркі:

| | | |
|---|---|---|
| Разьдзел | I — прамысловасьць. | Група „А“ |
| „ | II — электрыфікацыя. | |
| „ | III — сельская гасцадарка | |
| „ | IV — водная гаспадарка. | |
| „ | V — лясная гаспадарка. | |
| „ | VI — камунальная і жыльлёвая гаспадарка. | |
| „ | VII — гандаль. | |
| „ | VIII — транспарт. | |
| „ | IX — сувязь. | |
| Разьдзел | X — асьвета. | Група „Б“ |
| „ | XI — ахова здароўя. | |
| „ | XII — арганізацыя і ахова працы і сацыяльная забясьпека працоўных. | |
| Разьдзел | XIII — абарона. | Група „В“ |

| | |
|---|---|
| Разьдзел XIV—агульнае кіраваньньне.<br>„ XV—судовыя і папраўчыя ўстановы.<br>„ XVI—ахова грамадзкага парадку. | Група „Г“ |
| Разьдзел XVII—запасныя і рэзэрвныя фонды. | Група „Д“ |
| Разьдзел XVIII—расходы па пазыках. | Група „Е“ |
| Разьдзел XIX—розныя расходы. | Група „Ж“ |
| Разьдзел XX—сродкі, перадаваемыя ўстановам сацстраху.<br>„ XXI—сродкі, адлічваемыя і перадаваемыя ў мясцовы бюджэт.<br>„ XXII—сродкі, перадаваемыя іншым фінансавым інстытутам. | Група „З“ |

*Падразьдзелы.* Далейшая дэталізацыя і ўдакладненьне (унутры разьдзелаў) мэтавага прызначэньня расходаў даецца ў падразьдзелах. Падразьдзелы маюць, як паказана вышэй, толькі дапаможнае значэньне і прызначаюцца для суміраваньня ў сводах бюджэтаў і адзіным фінпляне расходаў па іх відавой адзнацы, г. зн., расходаў, якія вылучаюцца ў бюджэтнай клясіфікацыі ў самастойныя параграфы.

*Параграфы.* У параграфы вылучаны, як правіла, расходы па паасобных відах устаноў і мерапрыемстваў, якія правадзяцца ў складзе паасобных разьдзелаў. Параграфы маюць самастойную нумарацыю ў межах кожнага разьдзелу.

*Артыкулы.* Для падліку расходаў па паасобных прызначэньнях параграфы бюджэтнае клясіфікацыі падзяляюцца на артыкулы. Пералік артыкулаў, якія падлягаюць ужываньню ў сыстэме мясцовых бюджэтаў і склад расходаў, якія ўключаюцца ў паасобныя артыкулы, паказаны ніжэй.

### Падставы пабудовы агульна-саюзнай клясіфікацыі расходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31г.

У клясіфікацыю расходаў па мясцовых бюджэтах на 1930/31 г. з адзінай бюджэтнай клясіфікацыі ўключаны тыя падзяленьні, якімі могуць быць ахоплены расходы, што робяцца за кошт мясцовых бюджэтаў. Пры гэтым трэба адзначыць, што складаньне расходнае намэнклятуры па мясцовых бюджэтах зроблена было ў асноўным з падлікам заканадаўства Саюзу ССР і саюзных рэспублік, якое вызначае разьмежаваньне расходаў паміж дзяржаўным і мясцовым бюджэтамі. У той жа час улічаны былі расходы, якія намечаны да перадачы з надыходзячага 1930/31 г. з дзяржаўнага бюджэту на мясцовы бюджэт, а таксама тыя віды расходаў, якія ў бліжэйшы час будуць пашыраны на сыстэму мясцовых бюджэтаў (фінансаваньне калгасаў, машынатрактарныя станцыі, мерапрыемствы па жывёлагадоўлі і інш.).

Пры складаньні мясцовага бюджэту на 1930/31 год па паасобных саюзных рэспубліках належыць скарыстаць з увадзімай расходнай намэнклятуры толькі тыя каштарысныя падразьдзяленьні, якія у паказаным годзе будуць ужыты па данай саюзнай рэспубліцы. У зьвязку з гэтым агульна-саюзная расходная намэнклятура 1930/31 г. па паасобных саюзных рэспубліках павінна быць скарочана. Скарачэньне гэтае, на падставе падліку расходаў, якія пераносяцца па адпаведнай рэспубліцы на мясцовыя бюджэты 1930/31 г., павінна быць зроблена народнымі камісарыятамі фінансаў адпаведных саюзных рэспублік.

Пры правядзеньні паказанага скарачэньня не дазваляецца якая-б то ні была ломка нумарацыі каштарысных падраздзяленьняў, устаноўленай па намэнклятуры і ў рэспубліканскія намэнклятуры адпаведныя падразьдзяленьні павінны ўключацца пад нумарамі, якія паказаны ў агульна-саюзнай намэнклятуры.

**Парадак увядзеньня дадатковых падразьдзяленьняў у агульнасаюзную клясіфікацыю расходаў па мясцовых бюджэтах.**

Ня выключана магчымасьць, што на практыцы можа мець месца у паасобных мясцовасьцях СССР утварэньне за кошт мясцовых бюджэтаў такіх расходаў, да якіх ня могуць быць прыстасаваны маючыяся ў агульна-саюзнай намэнклятуры падразьдзяленьні.

У такіх выпадках наркамфіны саюзных рэспублік павінны папярэдне узгодніць з НКФ СССР пытаньне аб парадку правядзеньня па мясцовых бюджэтах расходаў, ня ўлічаных пры складаньні агульнасаюзнай намэнклятуры. Увядзеньне ў агульна-саюзную намэнклятуру дадатковых падразьдзяленьняў без папярэдняга ўзгадненьня з НКФ СССР ня можа быць дапушчана, бо гэта пацягне ломку адзінай бюджэтнай клясіфікацыі і цяжкасьці пры складаньні адзінага фінансавага пляну.

Наркамфінам саюзных рэспублік дазваляецца, калі гэта па ўмовах адпаведнай саюзнай рэспублікі зьявіцца патрэбным альбо мэтазгодным, разьвіваць у асобныя падразьдзяленьні (параграфы) расходы, якія яднаюцца ў агульна-саюзнай расходнай намэнклятуры ў адным падразьдзяленьні (параграфе), але з той, аднак, неабходнай умовай, каб:

а) разьбіўка аднаго падразьдзяленьня на два альбо некалькі рабілася з захаваньнем асноўнага нумару разьвіваемага каштарыснага падразьдзяленьня з прыданьнем дадаткова ўстанаўліваемым наркамфінам саюзнае рэспублікі падразьдзяленьням паўторнага чарговага нумару (калі напрыклад, § 2—„Прамысловасьць іншых ведамстваў“ па мясцовых асаблівасьцях зьявіцца мэтазгодным разьбіць на расходы па прамысловых прадпрыемствах, адмініструемых органамі сабесу, нарасьветы і г. д., то гэты параграф падзяляецца на параграф $2_1$— прамысловыя прадпрыемствы сабесу, § $2_2$—прамысловыя прадпрыемствы нарасьветы і г. д.);

б) у прадстаўляемых у НКФ СССР бюджэтных матарыялах расходы, правадзімыя па дадаткова разьвітых наркамфінамі саюзных рэспублік падразьдзяленьнях з паўторнай да асноўнага падразьдзяленьня нумарацыяй, даваліся сумарна па ўстаноўленых у агульнасаюзнай намэнклятуры асноўных падразьдзяленьнях.

**Значэньне граф у агульна-саюзнай клясіфікацыі па мясцовых бюджэтах.**

У апошняй графе правадзімай расходнай намэнклятуры па мясцовых бюджэтах на 1930/31 г. дадзена параўнаньне паасобных параграфаў паказанай намэнклятуры з расходнай намэнклятурай 1929/30 г. Рымскай лічбай у гэтай графе паказаны разьдзелы, а арабскай—параграфы намэнклятуры 1929/30 г. У тых жа выпадках, калі выдзяляемыя ў параграфы расходнае намэнклятуры 1930/31 г. расходы зьяўлялася цяжка параўнаць з падразьдзяленьнямі намэнклятуры 1929/30 г., або расходы гэтыя раней не пакрываліся з мясцовых сродкаў, то супраць адпаведных параграфаў у апошняй графе пастаўлен працяжнік. Аб тых удакладненьнях, якія могуць быць унесены наркам-

фінамі саюзных рэспублік у апошнюю графу, належыць паведаміць НКФ СССР.

У другой графе паказаны нумары артыкулаў, якія падлягаюць увядзеньню ў паасобныя парографы. Параграфы, супроць якіх у другой графе пастаўлен працяжнік, на артыкулы не падзяляюцца. У тых выпадках, калі ў другой графе даюцца паказаньні аб ужываньні сеткі артыкулаў, прастаўлена слова „сетка" і па даным параграфе праводзяцца расходы як на ўтрыманьне ўстаноў, так і на ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў за кошт мясцовых сродкаў, дык у гэтых выпадках адносна мерапрыемстваў маецца на ўвазе ўжываньне толькі трох артыкулаў—артыкулы 3, 4 і 6 (глядзі далей тлумачэньні пра парадак ужываньня артыкулаў расходнай намэнклятуры).

## II. Парадак прыстасаваньня паасобных падразьдзяленьняў у клясіфікацыі расходаў па мясцовых бюджэтах.

### Тлумачэньне да артыкулаў. Сетка артыкулаў.

Для дэталізацыі па назначэньнях расходаў, правадзімых па параграфах намэнклятуры, параграфы падзяляюцца на артыкулы. Расходная сетка артыкулаў, падлягаючая ўжываньню па ўсіх параграфах, па якіх праводзіцца адпаведны расход, складаецца як і у 1929/30 г., з 6 артыкулаў і пабудавана ў асноўным з прыстасаваньнем да сеткі артыкулаў намэнклятуры 1929/30 г. Зьмены ўнесены, у параўнаньні з 1929/30 г., толькі ў нумарацыі артыкулаў і ў парадак падліку па артыкулах затрат на абсталяваньне. У 1929/30 г. расходы на абсталяваньне праводзіліся ў агульным артыкуле з расходамі па набыцьцё інвэнтару, а з 1930/31 году затраты на абсталяваньне ўключаны ў склад двух артыкулаў: першапачатковае абсталяваньне будынкаў—у артыкул новага будаўніцтва, а дадатковае абсталяваньне будынкаў—у артыкул грунтоўнага рамонту. Ніжэй зьмяшчаецца расходная сетка артыкулаў намэнклятуры 1930/31 г. у параўнаньні з сеткай артыкулаў 1929/30 г.

| Расходная сетка артыкулаў 1930/31 г. | Сетка артыкулаў 1929/30. г. |
|---|---|
| Арт. 1.—Заработная плата | Арт. 1. Заработная плата |
| „ 2.—Адм.-гаспадар. расходы. | „ 2. Адм.-гасп. расходы. |
| „ 3.—Новае будаўніцтва і першапачатковае абсталяваньне будынкаў. | „ 6. Новае будаўніцтва. |
| „ 4.—Грунтоўны рамонт і дадатковае абсталяваньне будынкаў. | „ 5. Грунтоўны рамонт. |
| „ 5.—Набыцьцё інвэнтару. | „ 4. Набыцьцё інвэнтару і абсталяваньня. |
| „ 6.—Спэцыяльныя аперацыйныя (аперацыйна-эксплёатац.) расходы. | „ 3. Аперацыйна-эксплётац. расходы. |

### Тыповы пералік расходаў, падлягаючых уключэньню ў паасобныя артыкулы сеткі.

**Арт. 1.** Па арт. 1-му—заработная плата—павінна ўлічвацца зарплата, якая выплачваецца бюджэтнымі ўстановамі рабочым, служачым і практыкантам, а таксама адлічэньні з фонду зарплаты на ўтрыманьне мясцкому рабочых і служачых.

У зьвязку з цэнтралізацыяй з 1930/31 г. разрахункаў мясцова-бюджэтных устаноў з органамі сацстраху па ўносах на сацстрах і мэтавай надбаўцы на патрэбы рабочага жылбудаўніцтва, якія прылічваюцца з зарплаты, якая выплачваецца паказанымі ўстановамі па артыкулу 1-му, асыгнаваньні на выплату паказаных уносаў не падлягаюць уключэньню ў склад расходаў, якія ўлічваюцца па артыкулу 1-му. Асыгнаваньні на гэтую мэту павінны праводзіцца па параграфу 1-му разьдзелу XX расходнай намэнклятуры. Інструкцыя аб цэнтралізаваным парадку разрахункаў мясцова-бюджэтных устаноў з органамі сацстраху па зарплаце, выплачваемай гэтымі ўстановамі па артыкулу 1-му, а таксама па зарплаце, выплачваемай па іншых артыкулах, будзе разаслана дадаткова.

**Арт. 2.** У арт. 2—адм.-гасп. расходы—падлягаюць уключэньню: а) канцылярскія расходы; б) гаспадарчыя расходы; в) камандыровачныя; г) расходы па скліканьню зьездаў саветаў, зьездаў і канфэрэнцый.

Па канцылярскіх расходах павінна праводзіцца пакупка розных канцылярскіх прыладаў і прыпасаў, паштова-тэлеграфныя і тэлефонныя расходы, выпіска газэт, журналаў і г. д.

Да гаспадарчых расходаў адносяцца наём памяшканьняў, апал, асьвятленьне, вадаснабжэньне, асенізацыя і каналізацыя, утрыманьне у чыстаце памяшканьняў і двароў, дробны рамонт памяшканьняў, утрыманьне (без зарплаты) транспарту (аўтамабіляў, коняў—за вылючэньнем пажарнага транспарту, які праводзіцца па арт. 6), розныя дробныя гаспадарчыя расходы (упаковачныя матар'ялы трамвайные разьезды і інш.), страхаваньне будынкаў і г. д.

Па камандыровачных расходах праводзяцца расходы, зьвязаныя з паездкамі па службовых патрэбах працаўнікоў мясцова-бюджэтных устаноў, расходы па пераездах працаўнікоў на службу з іншых мясцовасьцяй, расходы па выездах нарсудов на сэсіі, праяздныя расходы рабочых і служачых, камандыруемых на курсы, у школы і г. д.

**Арт. 3.** Па арт. 3-му—новае будаўніцтва і першапачатковае абсталяваньне будынкаў—павінны ўлічвацца расходы па новым будаўніцтве, якое праводзіцца знаходзячыміся на мясцовым бюджэце ўстановамі, у тым ліку і па пашырэньню знаходзячыхся на бюджэце прадпрыемстваў. Пад расходамі на абсталяваньне разумеюцца расходы, забясьпечваючыя магчымасьць выкананьня будынкамі іх прызначэньня. Да гэтых расходаў адносяцца: устаноўка сыстэм апалу, асьвятленьня, каналізацыі і тэлефоннай сувязі, а ў будынках вытворча-тэхнічнага альбо навукова-тэхнічнага характару — таксама і ўстаноўка машын—станкоў, прыбораў, камэр і, наогул, такіх прыстасаваньняў сталага характару, без якіх вытворча-тэхнічныя альбо навукова-тэхнічныя мэты пабудовы будынкаў не дасягаюцца.

Не падлягаюць уключэньню ў склад расходаў па абсталяваньню такія прыстасаваньні, як звычайная мэбліроўка памяшканьняў, альбо набыцьцё машын для канцылярскіх патрэб. Расходы на гэтыя рэчы, г. зн.—на мэблю, канцылярскія шафы, пакупку пішучых і лічбовых машын, шклографаў, шапіраграфаў і інш.множных апаратаў, незгараемых шафаў і інш. сховаў і рознага роду гаспадарчых рэчаў падлягаюць уключэньню ў склад арт. 5-га—набыцьце інвэнтару.

У склад арт. 3, у адносіне абсталяваньня, павінны ўлічвацца толькі расходы па першапачатковаму абсталяваньню будынкаў.

**Арт. 4.** Па арт. 4—грунтоўны рамонт і дадатковае абсталяваньне будынкаў—належыць вылічваць паказанага парадку расходы па ўсіх знаходзячыхся на мясцовым бюджэце ўстановах і прадпрыемствах. Склад расходаў па абсталяваньню ахарактарызаваны вышэй, у тлумачэньнях да арт. 3. Па арт. 4 павінна праводзіцць толькі д а д а т к о в а е абсталяваньне будынкаў.

**Арт. 5.** Па арт. 5—набыцьце інвэнтару—праводзяцца расходы на набыцьцё: а) жывога інвэнтару, б) мёртвага інвэнтару, в) вопраткі абутку, бялізны і спэцвопраткі, г) снаражэньня і ўзбраеньня, д) кніг, навуковай і спэцыяльнай літаратуры.

Пад жывым інвэнтаром у гэтым артыкуле разумеюцца: коні для адміністрацыйных устаноў, міліцыі, пажарных каманд, больніц і іншых устаноў; каровы для больніц і дзіцячых дамоў, сабак для крымвышуку і г. д. Што-ж тычыцца так званай „вопытнай“ жывёлы (марскіх сьвінак, сабак, цялят для вопытаў у лябараторыях і г. д.), дык набыцьцё іх павінна ўтварацца па арт. 6 (спэцыяльныя аперацыйныя расходы).

Да расходаў на набыцьцё мёртвага інвэнтару адносяцца расходы на пакупку рознага роду рэчаў рухомай маемасьці, патрэбных для данай установы (шафаў і інш. мэблі, канцылярскіх і лічбовых машын, павозак, экіпажаў і г. д.). Расходы па ўтрыманьню як жывога, так і мёртвага інвэнтару па гэтаму артыкулу не павінны ўлічвацца, а падлягаюць правядзеньню па арт. 2 — адміністрацыйна - гаспадарчыя расходы.

У склад расходаў на набыцьцё прыбораў, інструмэнтаў і апаратаў спэцыяльнага прызначэньня, павінны ўключацца расходы на патрэбныя гэтай установе па роду яе дзейнасьці: мэдычныя, хірургічныя, вэтэрынарныя інструмэнты; прыборы і апараты для барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі ; нівэліры і інш. прыборы для землямерных і земляўпарадчых работ; фота-апараты для крымвышуку; прыборы і апараты для школ (фізычных габінэтаў) і г. д.

Па расходах на набыцьцё вопраткі, абутку, бялізны і спэцвопраткі па гэтаму артыкулу павінны праводзіцца толькі расходы на вопратку, абутак і г. д., якія заносяцца ў інвэнтарныя сьпісы належных устаноў. Расходы-ж на набыцьцё вопраткі, абутку, бялізны і спэцвопраткі, якія выдаюцца ў беззваротнае карыстаньне, павінны праводзіцца па арт. 6. Гэты парадак распаўсюджваецца таксама і на набыцьцё кніг, навуковай і спэцыяльнай літаратуры. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што забясьпечаньне вопраткай, абуткам і бялізнай вучняў павінна улічвацца па паасобнаму, уводзімаму для ўжываньня па разьдз. X (асьвета) арт. 7—матарыяльнае забясьпечаньне вучняў.

Да ліку расходаў на набыцьцё снаражэньня і ўзбраеньня адносяцца расходы па набыцьцю снаражэньня як для людзей (рэмні, маскі у пажарных камандах і г. д.), так і для коняй (сёдлы, вузьдзечкі і г. д.).

**Арт. 6.** Па арт. 6—спэцыяльныя аперацыйныя (аперацыйна-эксплёатацыйныя) расходы—праводзяцца тыя расходы, выкананьне якіх абумоўліваецца спэцыяльнымі функцыямі тых або іншых мясцовабюджэтных устаноў, якія ня могуць быць уключаны, з прычыны іх спэцыфічнасьці, у арт. 2-гі—адміністрацыйна-гаспадарчыя расходы. Да ліку расходаў, падлягаючых падліку па гэтаму артыкулу, адносяцца:

а) расходы на харчаваньне абслугоўваемага данай установай кантынгэнту асоб (дзяцей у дзіцячых дамох, хворых у больніцах, інвалідаў у інвалідных дамох, зьняволеных у мясцох зьняволеньня і г. д.), а таксама службовага пэрсаналу ў выпадках, дзе гэта ўстаноўлена;

б) расходы выхаваўчага і культурна-асьветнага характару, як напрыклад, пастаноўка лекцый і гутарак для вучняў, хворых, зьняволеных і г. д.;

в) расходы на набыцьцё мэдыкамэнтаў і перавязачных сродкаў для больніц амбуляторый, урачэбных пунктаў, а таксама вэтэрынарных установаў і інш. да іх падобныя расходы;

г) эксплёатацыйныя расходы па прадпрыемствах, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце, у тым ліку расходы па зарплаце рабочым і служачым, якія непасрэдна абслугоўваюць паказаныя прадпрыемствы, а таксама уплата падаткаў і збораў гэтымі прадпрыемствамі і

д) іншыя аперацыйныя расходы розных установаў, якія выцякаюць з іх аперацыйнай дзейнасьці, а іменна: 1) па выканкомах і саветах—расходы па перасылцы даходных паступленьняў мясцовага бюджэту і па перасоўцы яго касавай наяўнасьці;

2) па органах аховы здароўя—перавозка хворых, набыцьцё і ўтрыманьне вопытнай жывёлы ў бактэрыёлёгічных інстытутах і станцыях і г. д.;

3) па пажарнай камандзе — утрыманьне пажарнага абозу і транспарту;

4) па мясцох зьняволеньня—перавозка зьняволеных;

5) па нарсудах—аплата сьведкаў, экспэртаў і засядацяляў;

6) па крымінальнаму вышуку—яго сакрэтныя расходы і г. д.

**Асобы дадатковы артыкул (арт. 7) да разьдзелу X — асьвета.**

З вышэйпаказанай асноўнай сеткі артыкулаў у мэтах вылучэньня расходаў па матарыяльным забясьпечаньні вучняў ва ўсіх параграфах разьдзелу X — асьвета — па якіх праводзяцца паказанага парадку расходы, расходы гэтыя павінны ўлічвацца ў асобным, дадаткова-ўведзеным да сеткі артыкуле 7— матарыяльнае забясьпечаньне вучняў. Па гэтаму артыкулу павінны ўлічвацца расходы па выдачы вучням за кошт бюджэту стыпэндый і грашовай дапамогі, вучэбных і навуковых прыладаў, утрыманьне і харчаваньне вучняў у агульных памяшканьнях, забясьпечаньне вучняў вопраткай, абуткам, бялізнай і інш. віды расходаў па матарыяльнаму забясьпечаньню вучняў за кошт сродкаў бюджэту.

**Парадак вылучэньня ў артыкулы бюджэтных асыгнаваньняў гаспадарча-разрахунковых прадпрыемстваў і арганізацый (арт. арт. 8 і 9).**

У мэтах абасобленага падліку і паказаньня накіраваньня сродкаў, якія асыгнуюцца па бюджэту на фінансаваньне гаспадарча-разрахунковых прадпрыемстваў і арганізацый, сродкі гэтыя павінны ўлічвацца па адпаведных параграфах таго або іншага разьдзелу па асобных артыкулах—арт. 8—капітальныя ўкладаньні—і арт. 9—узмацненьне зваротных сродкаў.

Па арт. 8—капітальныя ўкладаньні — належыць улічваць беззваротныя асыгнаваньні ў доўгатэрміновыя пазычкі бюджэтаў на ўзмацненьне той часткі капіталу пераведзеных на гаспадарчы разрахунак прамысловых, гандлёвых, каперацыйных і іншых прадпрыемстваў і арганізацый, каштоўнасьць якой не зьнішчаецца ў аднаразовым працэсе вытворчасьці (кошт сыравіны, апалу, дапаможных матарыялаў), а разьмяркоўваецца на шэраг стала паўтараючыхся працэсаў вытворчасьці і пагашаецца ў парадку вызначаных амартызацыйных адлічэньняў (каштоўнасьць будынкаў, машын, абсталяваньня), з аднясеньнем да гэтай катэгорыі расходаў таксама і бюджэтных сродкаў, якія накіроўваюцца праз паказаныя прадпрыемствы і арганізацыі на будаўніцтва (у тым ліку—грунтоўны рамонт) у розных галінах народнае гаспадаркі.

Па арт. 9 — узмацненьне зваротных сродкаў — павінны паказвацца іншыя (апроч паказаных у арт. 8) асыгнаваньні і доўгатэрміновыя пазычкі за кошт бюджэту, якія перадаюцца ў распараджэньне прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый аграмаджанага сэктару, дзейнічаючых на падставах гаспадарчага разрахунку.

### Абмяжованасьць артыкулаў у расходнай намэнклятуры.

Усе расходы мясцовых бюджэтаў павінны быць зьмешчаны, у адпаведнасьці з паказанымі вышэй тлумачэньнямі, у пералічаныя дзевяць артыкулаў. У паасобных дыфэрэнцыраваных мясцовых бюджэтах, а таксама сводах і справаздачах бюджэтаў, увядзеньне дадатковых артыкулаў, звыш ўстаноўленых 9-ці, не павінна мець месца. Выключэньне дазваляецца толькі ў адносінах §§ 1 і 2 разьдзелу XXI, які ўведзен для аўтаномных рэспублік РСФСР.

### Скасаваньне падзелу артыкулаў на літары.

Таксама, каб не заграмаджаць бюджэт лішкавымі дэталізаванымі данымі, нежаданым зьяўляецца далейшае падзяленьне ў бюджэце тых або іншых артыкулаў на літарныя падразьдзяленьні. Падзяленьне гэтае павінна быць паказана ў дадаваемых да бюджэтаў абаснаваньнях і разрахунках. Аднак, у тых выпадках, калі наркамфінамі саюзных рэспублік усе-ж прызнана будзе мэтазгодным у зьвязку з мясцовымі ўмовамі ўстанавіць адносна ўсяе тэрыторыі саюзнай рэспублікі, альбо паасобных відаў функцыяніруючых у рэспубліцы бюджэтаў падзэл паасобных артыкулаў на больш дробныя часткі, то мера гэта можа быць праведзена ў парадку, які будзе ўстаноўлены наркамфінам адпаведнай рэспублікі.

### Пералік параграфаў, якія не падзяляюцца на артыкулы.

Ва ўсіх тых выпадках, калі ў другой графе дадаваемай расходнай намэнклятуры („назва артыкулаў“) стаіць працяжнік, адпаведныя параграфы намэнклятуры падлягаюць ужываньню без падзелу іх на артыкулы. Да ліку такіх параграфаў адносяцца ўсе параграфы, у якіх праводзяцца адлічэньні ў розныя фонды і капіталы, а таксама наступныя параграфы:

па разьдзд. X-му—§ 58 (фінансаваньне друку);
„ „ XII-му—§ 13 (пэнсіі вайсковым інвалідам);
„ „ „ —§ 14 (дапамога сем'ям прызван. у РСЧА);
„ „ „ —§ 16 (пэнсіі за выслугу гадоў мэд. прац.);
„ „ „ —§ 17 (пэнсіі састарэлым сялянам);

па разьдзд. XII-му — § 18 (іншыя пэнсіі і дапамогі);
„ „ „ — § 19 (субсыдаваньне сялянскіх таварыству ўзаемадапамогі).
„ „ XIII-му — § 1 (расходы па дапрызыўнай падрыхтоўцы);
„ „ „ — § 2 (бягучы рамонт вайсковых памяшканьняў).
„ „ XVII-му — § 1 (фонд непрадугледжаных расходаў);
„ „ „ — § 2 (адлічэньні ў рэзэрв па бюджэту).
„ „ XVIII-му — §§ 1 і 2 (плацяжы па пазыках).
„ „ XIX-му — § 1 (зварот няправільна атрыманых даходаў);
„ „ „ — § 2 (розныя страты).
„ „ XX-му — §§ 1 і 2 (сацыяльнае страхаваньне рабочых і служачых).
„ „ XXI-му — § 1 (адлічэньні ад дзяржаўных падаткаў і даходаў);
„ „ „ — § 2 (мэтавыя дапамогі).

## Тлумачэньні да разьдзелаў.

### Разьдзел I.

### Прамысловасьць.

Па § 2-му гэтага разьдзелу павінны праводзіцца асыгнуемыя па бюджэту сродкі на фінансаваньне ўсіх відаў гаспадарча-разрахунковай прамысловасьці, плянуемай ВСНГ. Асыгнаваньні гэтыя павінны ўлічвацца, у залежнасьці ад напрамку сродкаў, па двух артыкулах — артыкулы 8-ы і 9-ы. У тлумачэньнях і разрахунках па бюджэту належыць паасобна паказваць правадзімыя па гэтаму параграфу сумы па паасобных відах прамысловасьці (скураной, будаўнічай і г. д.) з вылучэньнем па кожнаму віду прамысловасьці разьмеру доўгатэрміновых пазычак і беззваротных асыгнаваньняў.

§ 3 прызначаецца для правядзеньня па мясцовых бюджэтах асыгнаваньняў на фінансаваньне як гаспадарча-разрахунковых прамысловых прадпрыемстваў, знаходзячыхся пад ведамам іншых, апроч ВСНГ, ведамстваў, так і прамысловых прадпрыемстваў, якія ўтрымліваюцца на бюджэце. У гэты параграф уключаюцца таксама і расходы па тых прамысловых прадпрыемствах, якія ў намэнклятуры 1929/30 г. праводзіліся па асобнаму параграфу адпаведных разьдзелаў па адзнацы адміністраваньня таго або іншага прадпрыемства (прадпрыемствы, якія адмініструюцца органамі сабесу і інш.).

Сродкі, накіроўваемыя па параграфу 3-му на фінансаваньне гаспадарча-разрахунковых прадпрыемстваў, павінны ўлічвацца па арт. арт. 8-му і 9-му. Расходы-ж па прамысловых прадпрыемствах, знаходзячыхся на бюджэце, павінны ў гэтым параграфе падзяляцца на тры артыкулы: арт. 3-ці — новае будаўніцтва, арт. 4-ы — грунтоўны рамонт і арт. 6-ы — эксплёатацыйна-аперацыйныя расходы, з падлікам па арт. 6-му ўсіх іншых, апроч вылучаемых у арт. арт. 3-ці і 4-ы расходаў па данаму прадпрыемству.

У тлумачэньнях і разрахунках, дадаваемых да бюджэту, адносна параграфу 3-га таксама павінны давацца разьдзельна па паасобных відах прамысловых прадпрыемстваў, з вылучэньнем адносна гаспа-

дарча-разрахунковых прадпрыемстваў доўгатэрміновых пазычак і беззваротных асыгнаваньняў.

§ 6-ы. У гэтым параграфе павінна праводзіцца толькі тая частка асыгнаваных па бюджэту сродкаў, якая накіроўваецца ў фонд на крэдытаваньне прамысловасьці. Сродкі-ж, накіроўваемыя праз фонд на крэдытаваньне электрагаспадаркі, павінны паказвацца ў § 4-м разьдзелу II-га (электрыфікацыя).

## Разьдзел II.

## Электрыфікацыя.

§§ 2 і 3 гэтага разьдзелу прызначаны для правядзеньня расходаў па камунальных электрычных станцыях і перанесяны ў гэты разьдзел з разьдзелу XI (камунальныя прадпрыемствы) намэнклятуры 1929/30 г. У залежнасьці ад формы эксплёатацыі электрычных станцый §§ 2 і 3 падзяляюцца альбо на артыкулы 3, 4, 6 (па знаходзячыхся на бюджэце станцыях), альбо на артыкулы 8 і 9 (па гаспадарча-разрахунковых). У першым выпадку ў арт. 6 (аперацыйна-эксплёатацыйныя расходы) уключаюцца таксама і расходы на заработную плату асабоваму складу, непасрэдна абслугоўваючаму данае прадпрыемства.

## Разьдзел III.

## Сельская гаспадарка.

Па паасобных параграфах гэтага разьдзелу, па якіх могуць праходзіць расходы як на ўтрыманьне адпаведных устаноў, а так і на мерапрыемствы па сельскай гаспадарцы (§§ 3, 4 і інш.) у адносіне ўстаноў павінна ўжывацца ў адпаведнасьці з прадметам расходу ўся шасьціартыкульная сетка расходаў, а ў адносіне мерапрыемстваў — арт. арт. 3, 4 і 6, пры гэтым па арт. 6 павінна ўлічвацца таксама і зарплата рабочым па мерапрыемствах; зарплата-ж кіруючаму пэрсаналу павінна праводзіцца па § 1 арт. 1-га гэтага разьдзелу.

Сродкі, накіроўваемыя на фінансаваньне сельска-гаспадарчых устаноў і арганізацый, а таксама на мерапрыемствы, якія ня ўтрымліваюцца па бюджэту (§§ 2—10 і інш.) павінны ўлічвацца па належнасьці па арт. арт. 8 і 9.

## Разьдзел IV.

## Водная гаспадарка.

Па адпаведных параграфах гэтага разьдзелу (§§ 1—5) павінны правадзіцца, па належнасьці, расходы, улічваемыя ў 1929/30 г., па разьдзелу XX-му расходнае намэнклятуры паказанага году. У тлумачэньнях да бюджэту належыць паказваць суму расходаў, якія ажыцьцяўляюцца за кошт паступленьняў воднага збору, і суму, якая пакрываецца за кошт агульна-бюджэтных сродкаў.

## Разьдзел V.

## Лясная гаспадарка.

Па § 1-му гэтага разьдзелу павінны праводзіцца таксама і расходы па лясох мясцовага значэньня.

Пасьля высьвятленьня магчымых для ўстанаўленьня, у зьвязку з рэарганізацыяй кіраваньня лясамі, форм фінансаваньня лясной гаспадаркі за кошт бюджэтных сродкаў, дадатковыя паказаньні па гэтаму разьдзелу будуць даны асобна.

## Разьдзел VI.

## Камунальная і жыльлёвая гаспадарка.

У гэтым разьдзеле аб'яднаны расходы па камунальнай гаспадарцы і камунальных прадпрыемствах, якія ў 1929/30 годзе вылучаліся ў два самастойных разьдзелы. У залежнасьці ад форм эксплёаатацыі камунальных прадпрыемстваў, адпаведныя параграфы гэтага разьдзелу падлягаюць разбіўцы альбо на артыкулы 8 і 9 (у адносіне гаспадарча-разрахунковых), альбо на артыкулы 3, 4 і 5 (па тых прадпрыемствах, якія знаходзяцца на бюджэце). У апошнім выпадку ў артыкул 6 павінны заключацца і выдаткі на зарплату па камунальных прадпрыемствах. Пры гэтым па ўсіх параграфах гэтага разьдзелу зарплата павінна ўлічвацца толькі па асабоваму складу, які непасрэдна абслугоўвае паказаныя ў гэтых параграфах камунальную маемасьць і прадпрыемствы. Але зарплата па апарату, які ўваходзіць у склад аддзелу камунальнае гаспадаркі і які кіруе гэтай маемасьцю і прадпрыемствамі, павінна праводзіцца па першаму параграфу гэтага-жа разьдзелу.

## Разьдзел VII.

## Гандаль.

§ 1 гэтага разьдзелу прызначаецца для падліку расходаў па ўтрыманьню ўпаўнаважаных акргандлю, аднесеных па паасобных саюзных рэспубліках на мясцовыя сродкі заканадаўствам адпаведнае рэспублікі.

## Разьдзел VIII.

## Транспарт.

Па §§ 2 і 3 павінна ўлічвацца толькі зарплата рабочым, непасрэдна абслугоўваючым рачныя пераправы і мерапрыемствы па дарожнай гаспадарцы. Зарплата-ж па апарату, які ўваходзіць у склад мясцовых дарожных аддзелаў, які кіруе гэтымі мерапрыемствамі, павінна праводзіцца па параграфу 1 гэтага разьдзелу.

## Разьдзел X.

## Асьвета.

У адпаведных параграфах гэтага разьдзелу, у якіх праводзяцца расходы па матарыяльнаму забясьпечаньню вучняў, паказаныя расходы, як гэта ўжо адзначалася вышэй, павінны ўлічвацца па арт. 7.

Па ўсіх параграфах гэтага разьдзелу, па якіх праводзяцца расходы па школьнай і пазашкольнай падрыхтоўцы кадраў, у тлумачэньнях і разрахунках па бюджэту павінны вылучацца асобна расходы на школьную і пазашкольную падрыхтоўку.

Таксама, у тлумачэньнях і разрахунках, што дадаюцца да бюджэту, у адносінах да §§ 4, 5, 6 і 7 разьдзелу X павінны быць зроблены паказаньні аб кошце 1-га канцэнтру. Апроч таго, у тлумачэньнях павінны быць зьвесткі аб кантынгэнтах вучняў, як па школах §§ 4—7, так і па ўсіх іншых відах школ і навучаньня.

## Разьдзел XI.

## Ахова здароўя.

Па тых параграфах гэтага разьдзелу, па якіх праходзяць расходы як па ўстановах, так і мерапрыемствах аховы здароўя (§§ 9, 11, 16,

17, 18, 19 і інш.)—у адносінах устаноў павінна ўжывацца, у адпаведнасьці з характарам расходу, уся шасьціартыкульная сетка, а па мерапрыемствах—арт. арт. 3, 4 і 6. У апошнім выпадку па арт. 6 улічваецца таксама зарплата асабоваму складу, непасрэдна абслугоўваючаму мерапрыемствы; зарплата-ж кіруючаму пэрсаналу павінна правозіцца па § 1 гэтага разьдзелу.

Разьдзел XII.

**Арганізацыя і ахова працы і сацыяльная забясьпека працоўных.**

Па § 3 гэтага разьдзелу належыць праводзіць адлічэньні ў фонд палепшаньня быту рабочых і служачых, якія ўстанаўляюцца рэспубліканскім заканадаўствам у парадку арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР за 27 чэрвеня 1928 г. (З. З. СССР 1928 г. № 43, арт. 386) у адносіне камунальных прадпрыемстваў, знаходзячыхся на мясцовым бюджэце.

Разьдзел XIV.

**Агульнае кіраваньне.**

У § 2 гэтага разьдзелу павінны ўключацца і расходы па ўтрыманьні апаратаў мясцовых статыстычных органаў, якія перадаюцца органам Дзяржпляну на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 23 студзеня 1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 8, арт. 97).

Разьдзел XXI.

**Сродкі, адлічаемыя і перадаваемыя ў мясцовы бюджэт.**

Разьдзел гэты ўведзены, як паказана было вышэй, для ўжываньня яго толькі па бюджэтах аўтаномных рэспублік РСФСР.

Разьдзел XXIII.

**Расходы за кошт сродкаў самаабкладаньня.**

На падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 31/II-1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 16, арт. 172) сродкі самаабкладаньня падлягаюць уключэньню ў даход мясцовых бюджэтаў, пры чым сродкі гэтыя павінны расходвацца выключна на тыя патрэбы, якія вызначаны пастановамі агульных сходаў грамадзян. У мэтах вылучэньня і вядзеньня асобнага падліку расходаў па сельскіх альбо раённых бюджэтах, за кошт уключаемых у даходную частку гэтых бюджэтаў сродкаў самаабкладаньня, у клясіфікацыю расходаў уводзіцца разьдзел XXIII. Разьдзел гэты падзяляецца на параграфы па адзнацы галін мясцовае гаспадаркі, на якія скарыстоўваюцца сродкі самаабкладаньня, з увядзеньнем у кожны з параграфаў гэтага разьдзелу сеткі артыкулаў. З сеткі артыкулаў па кожнаму данаму параграфу падлягаюць ужываньню адпаведныя артыкулы ў залежнасьці ад прадмету прызначэньня расходу. У справаздачных даных аб скарыстаньні сродкаў самаабкладаньня па кожнаму параграфу гэтага разьдзелу павінны абавязкова паказвацца зьвесткі аб сумах затрат па паасобных аб'ектах будаўніцтва і відах устаноў і мерапрыемстваў, што праводзяцца за кошт самаабкладаньня (па асьвеце — веды аб сумах затрат на школы, бібліятэку і г. д. і на што іменна расходы зроблены; па дабрабыту—канкрэтны пералік ажыцьцяўляемых па дабрабыту мерапрыемстваў і сума расходаў па кожнаму мерапрыемству і г. д.).

Паводле арт. 9 агульна-саюзнага закону аб самаабкладаньні (З. З. СССР 1927 г. № 51, арт. 509) расходваньне паступаючых у парадку самаабкладаньня сродкаў не на тыя мэты, якія паказаны у адпаведных пастановах агульнага сходу грамадзян, забараняецца пад пагрозай адказнасьці ў крымінальным парадку.

Увага. Тлумачэньні прыведзены толькі па тых разьдзелах, якія маюць у сябе асаблівасьці, патрабуючыя высьвятленьня.

**Парадак правядзеньня па бюджэтах запазычанасьці мінулага году.**

Існаваўшы ў мясцовым бюджэце асобны разьдзел (XVI) для падліку расходаў на пагашэньне запазычанасьці па бюджэту мінулага году з 1930/31 г. скасоўваецца. У адносіне мясцовых бюджэтаў з 1930/31 году ўстанаўляецца той-жа парадак правядзеньня расходаў на пагашэньне запазычанасьці мінулага году, які, пачынаючы з 1929/30 году, устаноўлен для дзяржбюджэту пастановамі СНК СССР за 28 верасьня 1928 г.—З. З. СССР 1928 г. № 64, арт. 591, і за 10 ліпеня 1929 г.—З. З. СССР 1929 г., № 48, арт. 432), а іменна: астаўшыяся да моманту заключэньня мясцовых бюджэтаў нездаволенымі і падлягаючымі аплаце ў новым бюджэтным годзе прэтэнзіі крэдытораў паказаных бюджэтаў па абавязацельствах мінулага году, а таксама нявыплачаная ў мінулым годзе зарплата падлягаюць аплаце з сродкаў бюджэту новага году за лік асыгнаваньняў, якія ўключаюцца на гэтую мэту ў адпаведныя бюджэтныя падразьдзяленьні разам з адпаведнымі расходамі, вылічанымі на новы год. У дадаваемых да бюджэту тлумачэньнях па адпаведных падразьдзяленьнях павінны паказвацца зьвесткі аб сумах запазычанасьці, уключаных у гэтыя падразьдзяленьні, і на што іменна запазычанасьць вылічана.

**Ужываньне груп і падразьдзелаў адзінай бюджэтнай клясіфікацыі ў сыстэме мясцовых бюджэтаў.**

Устаноўленыя па адзінай бюджэтнай клясіфікацыі расходныя групы і падразьдзелы маюць толькі дапаможнае значэньне.

У групах суміруюцца расходы, якія праводзяцца па некалькіх падобных па той або іншай адзнацы разьдзелах (за выключэньнем груп „В“, „Д“ і „Ж“, якія не падзяляюцца на разьдзелы і ўведзены для адзіннасьці пабудовы клясіфікацыі), а падразьдзелы даюць у сумарным выглядзе расходы, правадзімыя па паступоваму шэрагу параграфаў у межах разьдзелу. Ужываньне груп і падразьдзелаў па дыфэрэнцыраваных мясцовых бюджэтах належыць прызнаць нямэтазгодным. У мэтах-жа палягчэньня аналізу і вывучэньня бюджэтаў, а таксама атрыманьня сводных даных, як у сводах бюджэтаў мясцовых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, таксама і ў сводах бюджэтаў у маштабе саюзнай рэспублікі, якія прадстаўляюцца ў НК Фінансаў СССР, пажадана суміраваньне расходаў на падразьдзелы і групы ў адпаведнасьці з устаноўленым у адзінай бюджэтнай клясіфікацыі, падзяленьнем на групы і падразьдзелы.

**Тлумачэньні расходаў і абаснаваньне разрахункаў.**

У дадатках да дыфэрэнцыраваных бюджэтаў павінны абавязкова давацца тлумачэньні вылічаных па даным бюджэце расходаў і абаснаваньне разрахункаў па кожнаму расходу. Што тычыцца параграфаў і артыкулаў расходнай часьці, то павінны быць паказаны вылічэньні па паасобных расходах, якія ўвайшлі ў гэтыя параграфы і артыкулы,

з паказаньнем устаноўленых норм па данаму расходу, штатаў па адпаведных установах і іншых зьвестак, патрэбных для абаснаваньня правільнасьці вылічаных расходаў. Апроч таго, ў тлумачэньнях да бюджэту па кожнаму бюджэтнаму падразьдзяленьню павінны паказвацца параўнаньні з сумай адпаведнага расходу ў 1929/30 г., з тлумачэньнем зробленай ў той ці іншы бок у параўнаньні з 1929/30 г. зьменай гэтага расходу.

---

Дадатак 3-ці.

## Клясіфікацыя даходаў мясцовых бюджэтаў на 1930/31 г.

Разьдзел I.

### Астача бюджэтных сродкаў.

Разьдзел II.

### Даходы па сельскай гаспадарцы.

§ 1. Саўгасы.
§ 2. Лугфонды.
§ 3. Сады і гароды, вінаграднікі і вінавырабы.
§ 4. Іншыя зямельныя ўжыткі (землі, нетры, агульна-карысныя выкапні, выганы і інш.).
§ 5. Іншыя зямельныя ўжыткі, знаходзячыяся ў распараджэньні зямельных грамад.
§ 6. Дзяржаўны вольны зямельны запас.
§ 7. Рыбная гаспадарка (рыбныя лоўлі і г. д.).
§ 8. Лесараспрацоўкі лясных аддзелаў і землкіраўніцтваў.
§ 9. Лясы мясцовага значэньня.
§ 10. Пабочнае карыстаньне ў лясох дзяржаўнага значэньня.
§ 11. Установы і мерапрыемствы па паляводзтву, жывёлагадоўлі і вэтэрынарыі.
Параграфы падзяляюцца на артыкулы:
арт. 1—адлічэньні ад прыбыткаў,
„ 2—валавы даход,
„ 3—арэндная плата.

Разьдзел III.

### Даходы ад прамысловасьці і гандлю.

§ 1. Прамысловыя прадпрыемствы.
§ 2. Гандлёвыя прадпрыемствы.
Параграфы падзяляюцца на артыкулы:
арт. 1—адлічэньні ад прыбыткаў,
„ 2—валавы даход,
„ 3—арэндная плата.

Разьдзел IV.

### Даходы па камунальнай маемасьці і аброках.

§ 1. Муніцыпалізаваныя жыльлёвыя дамы і памяшканьні.
§ 2. Гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы, склады, крытыя рынкі.
§ 3. Месца для гандлю.
§ 4. Гарадзкая зямельная гаспадарка (сады, гароды, лясы, лугі, выганы, пашні, агульнакарысныя выкапкі, гарадзкія рыбныя лоўлі і інш. забудаваныя і незабудаваныя гарадзкія землі).
§ 5. Іншыя камунальныя маемасьці і аброкі.

Параграфы падзяляюцца на артыкулы:
арт. 1—адлічэньні ад прыбыткаў,
„ 2—валавы даход,
„ 3—арэндная плата.

Разьдзел V.

## Даходы ад камунальных прадпрыемстваў.

§ 1. Вадаправоды.
§ 2. Каналізацыя.
§ 3. Асенізацыйныя абозы.
§ 4. Газавыя заводы.
§ 5. Трамваі і гарадзкія конна-жалезныя дарогі.
§ 6. Аўтобусы і таксаматоры.
§ 7. Электрычныя станцыі.
§ 8. Параходзтва і рачныя пераправы.
§ 9. Рэзьніцы.
§ 10. Транспартны абоз.
§ 11. Іншыя камунальныя прадпрыемствы.
§ 12. Камунальныя трэсты і камбінаты.
Параграфы падзяляюцца на артыкулы:
арт. 1—адлічэньні ад прыбыткаў,
„ 2—валавы даход,
„ 3—арэндная плата.

Разьдзел VI.

## Даходы ад розных маемасьцяй, устаноў, прадпрыемстваў і мерапрыемстваў, апроч сел.-гасп., камунальн. і мясцовай прамысловасьці.

§ 1. Знаходзячыхся пад загадам адм. органаў і органаў аховы грамадзкага парадку.
§ 2. Знаходзячыхся пад загадам органаў народнай асьветы.
§ 3. „ „ „ „ аховы здароўя.
§ 4. „ „ „ „ сацыяльнае забясьпекі.
§ 5. „ „ „ „ аховы працы.
§ 6. Ад мерапрыемстваў па падтрыманьні сувязі (ямшчына, паштавая ганьба, радыё і г. д.).
§ 7. Проціанты з грашовых капіталаў і працантавых папер, дывідэнд на паі і акцыі.
§ 8. Ад рэалізацыі дзяржфондаў мясцовага значэньня.
Параграфы падзяляюцца на артыкулы:
арт. 1—адлічэньні ад прыбыткаў,
„ 2—валавы даход,
„ 3—арэндная плата.

Разьдзел VII.

## Штрафы і розныя паступленьні.

§ 1. Штрафы па прамысловаму падатку з уласьнікаў прыватных прадпрыемстваў у сельскіх мясцовасьцях.
§ 2. Штрафы па падаходнаму падатку з уласьнікаў прыватных прадпрыемстваў у сельскіх мясцовасьцях.
§ 3. Паступленьні (50%) штрафаў і сум, атрыманых ад продажу канфіскаваных рэчаў за акцызныя парушэньні ў сельскіх мясцовасьцях.

§ 4. Штрафы па гарнцаваму збору.

§ 5. Штрафы па лесазагатоўках і лесасплаву.

§ 6. Іншыя сысканьні і штрафы.

§ 7. Зварот доўгатэрміновых пазычак.

§ 8. Іншыя паступленьні.

## Разьдзел VIII.

## Мясцовыя падаткі, пошліны і зборы.

§ 1. Падатак з будынкаў.

§ 2. Падатак з цяжараў, што прывозяцца і вывозяцца па чыгуначных і водных шляхох.

§ 3. Падатак з золатапрамысловых прадпрыемстваў.

§ 4. Мэтавы кватэрны падатак.

§ 5. Падатак з рэстаранаў, сталовых, піўных і да таго падобных прадпрыемстваў.

§ 6. Рэнта з гарадзкіх зямель.

§ 7. Судовыя пошліны па судовых установах, знаходзячыхся на мясцовым бюджэце.

§ 8. Натарыяльны збор, што спаганяецца знаходзячыміся на мясцовым бюджэце ўстановамі і органамі.

§ 9. Збор па актах грамадзянскага стану.

§ 10. Зборы, што спаганяюцца знаходзячыміся на мясцовым бюджэце судовымі выканаўцамі.

§ 11. Збор з адпускаемай з лясных дач драўніны.

§ 12. Падатак з транспартных сродкаў у гарадзкіх паселішчах.

§ 13. Падатак з жывёлы ў гарадзкіх паселішчах.

§ 14. Збор за вэтэрынарна-санітарны агляд жывёлы і сырых прадуктаў ад жывёлы.

§ 15. Падатак з наведвальнікаў публічных відовішчаў у гарадзкіх паселішчах.

§ 16. Збор з наведвальнікаў завядзеньняў для ўжываньня на месцы ўсякага роду патраў і напіткаў і з асоб, пражываючых у гасьцініцах.

§ 17. Збор з асоб, прыяжджаючых у лячэбныя мясцовасьці.

§ 18. Прапісачны збор.

§ 19. Падатак з плякатаў, афіш, рэклям і абвестак.

§ 20. Падатак з аўкцыённых продажаў.

§ 21. Разавы збор.

§ 22. Збор з прамысловых садоў і гародаў.

§ 23. Збор за пашу чужаземнае жывёлы, якая прыганяецца з Аўганістану і Пэрсіі (пачавы збор).

§ 24. Збор з асоб, ня маючых права быць сельскімі выканаўцамі.

§ 25. Збор, які паступае замест працоўнага ўдзелу насельніцтва ў дарожным будаўніцтве.

§ 26. Збор за карыстаньне мастамі.

§ 27. Рэгістрацыйны збор з уласьнікаў сабак.

## Разьдзел IX.

## Надбаўкі да дзяржпадаткаў і збораў.

§ 1. Да падаходнага падатку.

§ 2. Да судовае мыты, што спаганяецца ў судовых установах, знаходзячыхся на дзяржбюджэце.

§ 3. Да аплаты, спаганяемай знаходзячыміся на дзяржбюджэце органамі за ўтварэньне натарыяльных дзеяньняў.

§ 4. Да дзяржаўнага паляўніцкага збору.

## Разьдзел X.

## Дзяржаўныя падаткі і зборы.

§ 1. Сельгаспадатак.
§ 2. Прампадатак.
§ 3. Падаходны падатак.
§ 4. Дзяржаўны збор з біржавых і пазабіржавых угод.
§ 5. Адзіны рыбалоўны збор.
§ 6. Падатак з маемасьцяй, пераходзячых у парадку спадчыны і дару.

Параграф 3 падзяляецца на артыкулы:
арт. 1—ад дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў.
„ 2—ад іншых прадрыемстваў абагуленага сэктару.

## Разьдзел XI.

## Дзяржаўныя непадатковыя даходы.

§ 1. Лясны даход.

§ 2. Ад прыбыткаў асноўных лесазагатоўшчыкаў.

§ 3. Ад нетраў рэспубліканскага і агульна-саюзнага значэньня.

§ 4. Ад даходаў па эксплёатацыі маемасьці агульнадзяржаўнага значэньня.

§ 5. Ад эксплёатацыі торпавых балот агульнадзяржаўнага значэньня.

§ 6. Ад даходаў па здачы ў арэнду рыбапрамысловых і зьверапрамысловых ужыткаў агульнадзяржаўнага значэньня.

§ 7. Ад чыстага прыбытку дзяржстраху.

§ 8. Ад рэалізацыі дзяржфондаў рэспубліканскага значэньня.

§ 9. Ад прыбытку мандатных прадпрыемстваў.

§ 10. Ад прыбытку дзяржорганаў саюзнага і рэспубліканскага значэньня і акцыянэрных таварыстваў з выключным удзелам дзяржаўнага капіталу па апярацыях загатоўкі і збыту сыравіны.

§ 11. Ад збораў за выдачу агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў, дазволаў на выезд з СССР і відаў на пражываньне для чужаземцаў.

§ 12. Ад спэцыяльнага збору з перапрацаваных сахара-заводамі буракоў.

§ 13. Адлічэньні ад сум, рэалізаваных па займу „Пяцігодка— у чатыры гады“.

## Разьдзел XII.

## Зварот расходаў з агульнадзяржаўных сродкаў.

§ 1. Па выдачы пэнсій інвалідам вайны.

## Разьдзел XIII.

### Дапамогі з агульна-дзяржаўных сродкаў.

§ 1. Субвэнцыя:
арт. 1—на настаўніцкі пэрсанал;
„ 2—на ўрачэбны і сярэдні мэдыцынскі пэрсанал;
„ 3—на агранамічны і вэтэрынарны пэрсанал;
„ 4—на дарожнае будаўніцтва;
„ 5—на школьнае будаўніцтва;
„ 6—на больнічнае будаўніцтва;
„ 7—на агранамічнае будаўніцтва;
„ 8—на вэтэрынарнае будаўніцтва;

§ 2. Мэтавыя дапамогі:
арт. 1—на палепшаньне справы аховы мацяры і дзіцяці за кошт даходаў ад дзяржаўнае манапаліі на вытворчасьць ігральных карт;
арт. 2—субсыдыі на патрэбы індустрыяльных тэхнікумаў за кошт адлічэньня ад прыбыткаў прамысловасьці;
арт.—3 іншыя мэтавыя дапамогі.

§ 3. Датацыя.

§ 4. Кампэнсацыя за ўстановы, пераданыя з дзяржбюджэту.

§ 5. „ „ дзяржбюджэтныя ўстановы па вопытных акругах.

## Разьдзел XIV.

### Мэтавыя дапамогі з спэцфондаў і капіталаў.

§ 1. З спэцыяльнага капіталу крэдытаваньня рабочага жыльлёвага будаўніцтва.

§ 2. З спэцыяльнага капіталу жылфонду.

§ 3. З камунальнага фонду.

§ 4. З амартызацыйнага фонду камунальных прадпрыемстваў.

§ 5. З спэцыяльнага капіталу доўгатэрміновага крэдытаваньня дзяржпрамысловасьці і электрагаспадаркі мясцовага значэньня.

§ 6. З рэспубліканскага дарожнага фонду.

§ 7. З мясцовых дарожных фондаў.

§ 8. З школьнага будаўнічага фонду.

§ 9. З фонду імя У. І. Леніна.

§ 10. З рэзэрваў па мясцоваму бюджэту.

§ 11. „ фонду па барацьбе з бур'янамі.

§ 12. „ амартызацыйнага фонду мясцовай прамысловасьці.

§ 13. „ фонду па ліквідацыі няпісьменнасьці.

§ 14. „ мясцовых фондаў воднае гаспадаркі.

§ 15. „ рэспубліканскіх фондаў воднае гаспадаркі.

§ 16. „ фонду калектывізацыі і аздараўленьня дзіцячага быту.

§ 17. „ фонду будаўніцтва культурна-бытавых установ у буйных калгасах.

## Разьдзел XV.

### Дапамогі з іншых крыніц.

§ 1. Мэтавыя дапамогі на ўтрыманьне ведамсьцвеннай міліцыі.

§ 2. Узнагарода РВК-аў за збор акладных страхавых плацяжоў.

§ 3. Ад апярацый „Саюзхлеба“ на палепшаньне зернавое гаспадаркі загатовачных раёнаў.

§ 4. Збор з арганізацый, загатаўляючых бавоўну.

§ 5. Ад прамысловасьці на расходы па мерапрыемствах, што праводзяцца па мясцоваму бюджэту.

Параграф 5 падзяляецца на артыкулы:

арт. 1—па дарожнай гаспадарцы,
„ 2—на культурна-сацыяльныя і бытавыя мерапрыемствы,
„ 3—на іншыя мерапрыемствы.

§ 6. За кошт паступлецьняў мэтавых збораў на транспарце на патрэбы асьветы.

Разьдзел XVI.

**Пазыкі.**

§ 1. Доўгатэрміновыя пазыкі:

арт. 1—на жыльлёвае будаўніцтва;
„ 2—на патрэбы камунальных прадпрыемстваў;
„ 3—на патрэбы мясцовай прамысловасьці;
„ 4—на дарожнае будаўніцтва;
„ 5—на школьнае будаўніцтва;
„ 6—на больнічнае будаўніцтва;
„ 7—на іншыя мерапрыемствы.

§ 2 Кароткатэрміновыя пазыкі.

Разьдзел XVII.

**Дапамогі з мясцовых фондаў рэгуляваньня.**

§ 1. З рэспубліканскіх (аўтаномных рэспублік) краявых (абласных) фондаў рэгуляваньня.

§ 2. З акруговых фондаў рэгуляваньня.

Разьдзел XVIII.

**Дапамогі з фондаў рэгуляваньня саюзнай рэспублікі.**

§ 1. На збалянсаваньне бюджэту.

§ 2. На мэтавыя дапамогі.

Увага. § 2 разьбіваецца ў адпаведнасьці з прызначэньнем дапамог на артыкулы па узгадненьні з НКФ СССР.

Разьдзел XIX.

**Дапамогі з фонду мэддапамогі застрахаваным.**

§ 1. Дапамогі з фонду мэддапамогі застрахаваным.

Разьдзел XX.

**Асобны водны збор.**

§ 1. Асобны водны збор.

Разьдзел XXI.

**Спэцыяльныя сродкі.**

§ 1. Па ўстановах народнай асьветы.

§ 2. Па ўстановах аховы здароўя.

§ 3. Па сельска-гаспадарчых установах.

§ 4. Па іншых установах.

### Разьдзел XXII.

### Мэтавыя дапамогі калгасаў.

§ 1. З фондаў па палепшаньню бытавых і культурна-асьветных устаноў.

§ 2. Адлічэньні ад прыбыткаў і мэтавыя асыгнаваньні калгасаў.

Параграф 2 падзяляецца на артыкулы:

арт. 1—на мерапрыемствы па народнай асьвеце;
арт. 2—на мерапрыемствы па ахове здароўя;
арт. 3—на дарожную справу;
арт. 4—на мерапрыемствы па дабрабыту;
арт. 5—на іншыя мерапрыемствы.

### Разьдзел XXIII.

### Сродкі самаабкладаньня.

§ 1. Паступленьні па самаабкладаньні.

---

Дадатак 4-ты.

## Тлумачэньні да клясіфікацыі даходаў па мясцовых бюджэтах на 1930-31 г.

Пры распрацоўцы ўвадзімай в 1930-31 г. адзінай клясіфікацыі расходаў пастаўлена было таксама пытаньне аб пераглядзе ўжываемых у паасобных фінплянах клясіфікацый даходаў у напрамку ўстанаўленьня аднолькавага групаваньня іх, забясьпечваючага магчымасьць суміраваньня ў агульным ітозе даходнай часткі адзінага фінпляну.

Аднак, пры абмеркаваньні пытаньня аб ўстанаўленьні паказанай аднольковай для розных фінплянаў клясіфікацыі даходаў было прызнана патрэбным канчатковае вырашэньне гэтага пытаньня адкласьці да часу, пакуль ня будзе зацьверджаны ў заканадаўчых органах СССР заканапраект аб уніфікацыі плацяжоў прадпрыемстваў і арганізацый аграмаджанага сэктару і ўдакладненьня ўзьнікаючых у зьвязку з гэтай рэформай зьмен у бюджэтнай сыстэме.

Паводле паказанага меркаваньня, пры складаньні клясіфікацыі даходаў па мясцовых бюджэтах на 1930-31 г. захавана была структура даходнай клясіфікацыі 1929-30 г. з унясеньнем у яе толькі асобных дапаўненьняў, паправак і ўдакладненьняў. Пералік дапаўненьняў і зьмен, унесяных у параўнаньні з 1929-30 г. у паасобныя разьдзелы даходнай клясіфікацыі, паказаны ніжэй.

*Па разьдзелу II.* 1) Уведзен уключаны ў працэсе выкананьня бюджэтаў 1929-30 г. § 5—„Іншыя зямельныя ўжыткі, знаходзячыяся ў распараджэньні зямельных таварыстваў“;

2) Дапоўнен § 9—„Лясы мясцовага значэньня“;

3) Удакладнена назва § 10—„Пабочнае карыстаньне ў лясох дзяржаўнага значэньня“;

4) У зьвязку з паказанымі вышэй лапаўненьнямі зьменена нумарацыя параграфаў.

*Па разьдзелу III.* Захоўваецца бяз зьмен. Уведзяны ў працэсе выкананьня бюджэтаў 1929-30 г. дадатковы артыкул $1^1$—„Адлічэньні ад прыбыткаў агульна-саюзных і рэспубліканскіх трэстаў, утвораных у парадку зьліяньня з прамысловымі прадпрыемствамі мясцовага значэньня“ — выключан з тым, каб паказаныя адлічэньні, ня вылучаючы іх, залічваць па арт. 1—адлічэньні ад прыбыткаў.

*Разьдзелы IV, V і VI*—пакінуты бяз зьмен.

*Па разьдзелу VII.* 1) У зьвязку з пастановай ЦВК і СНК СССР за 3/VI—1930 г. (пратакол № 37, п. I), устанавіўшай передачу ў мясцовыя сродкі штрафаў па прамысловым і падаходным падатках з уласьнікаў прыватных прадпрыемстваў у сельскіх мясцовасьцях ня ў якасьці адлічэньняў ад дзяржбюджэтнага даходу (як гэта было да выданьня паказанай пастановы), а ў якасьці непасрэднай даходнай крыніцы мясцовага бюджэту, ў гэты разьдзел уведзяны два самастойных параграфы (§§ 1 і 2) для залічэньня паказаных штрафаў (у 1929-30 г. штрафы гэтыя залічваліся па арт. 1 і 2 § 6 разьдз. X—„Адлічэньні ад дзяржпадатку“).

2) Залічваемыя ў 1929-30 г. па арт. 3 § 6 таго-ж разьдз. X штрафы за акцызныя парушэньні вылучаны ў § 3 гэтага разьдзелу. Перадача штрафаў за акцызныя парушэньні ў сельскіх мясцовасьцях у даход сельскага або раённага бюджэту ў разьмеры 50% накладзеных штрафаў і сум, выручаных ад продажу канфіскаваных рэчаў, устаноўлена пастановай ЦВК і СНК СССР за 4/X-1929 г. (З. З. СССР 1929 г. № 66, арт. 615).

3) Разьдзел дапоўнен двума новымі параграфамі: § 4—„Штрафы па гарнцаваму збору“ і § 5—„Штрафы па лесазагатоўках і лесасплаву“.

4) Назва разьдзелу пераіначана ў „Штрафы і розныя паступленьні“.

*Па разьдзелу VIII.* 1) У зьвязку з паказанай вышэй пастановай ЦВК і СНК СССР за 3/VI-1930 г. аб выключэньні з дзяржаўнага бюджэту паступленьняў, сумы якіх поўнасьцю залічваюцца ў мясцовы бюджэт, у гэты разьдзел ўключаны § 7—„Судовыя мыты па судовых установах, якія знаходзяцца на мясцовым бюджэце“, § 8—„Натарыяльны збор, які спагняецца знаходзячыміся на мясцовым бюджэце ўстановамі і органамі“ і § 10—„Збор за дзеяньні, якія ўтвараюцца знаходзячыміся на мясцовым бюджэце судовымі выканаўцамі“.

Паводле пастановы за 31/VI-1930 г., паказаныя ў §§ 7, 8 і 10 мыты і зборы залічваюцца з I/X-1930 г. у мясцовыя сродкі не як адлічэньні ад дзяржаўных даходаў, а як непасрэдныя даходы мясцовых саветаў. У зьвязку з гэтым касуецца з 1/X-1930 г. надбаўка ў мясцовыя сродкі да судовай мыты і натарыяльнага збору, якая паступае па знаходзячыхся на мясцовым бюджэце ўстановах, і на сумы гэтых надбавак рэспубліканскім заканадаўствам павінны быць павялічаны з паказанага тэрміну стаўкі судовай мыты і натарыяльных збораў па ўстановах, знаходзячыхся на мясцовым бюджэце.

2) Назва разьдзелу пераіначана ў „Мясцовыя падаткі, мыты і зборы“ і зьменена нумарацыя параграфаў разьдзелу.

*Па разьдзелу IX.* У зьвязку з скасаваньнем з 1 кастрычнік 1930 г. надбаўкі ў мясцовыя сродкі да судовай мыты і натарыяльных збораў па знаходзячыхся на мясцовым бюджэце ўстановах (гл. тлумачэньне да разьдзелу VIII), унесяны адпаведныя ўдакладненьні ў назвы §§ 2 і 3.

*Па разьдзелу X.* 1) Выключан параграф для залічэньня адлічэньняў ад штрафаў, які быў у гэтым разьдзеле ў 1929-30 г. (гл. тлумачэньне да разьдзелу VII).

2) Уведзен новы параграф 5—„Адзіны рыбалоўны збор“—паступленьні па якім, на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 23/IV-1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 24, арт. 260) разьмяркоўваюцца паміж дзяржаўным і мясцовым бюджэтам у парадку, які ўстанаўляецца ўрадамі саюзных рэспублік.

3) Назва разьдзелу пераіначӑна ў „Дзяржаўныя падаткі і зборы“.

*Па разьдзелу XI.* Маючыяся ў гэтым разьдзеле ў 1929-30 г. параграфы для залічэньня судовай мыты і натарыяльных збораў, якія спаганяюцца ў знаходзячыхся на мясцовым бюджэце установах, перанесяны ў разьдзел VIII (гл. тлумачэньне да разьдзелу VIII).

*Па разьдзелу XII.* Улічаны ўнесеныя ў гэты разьдзел у працэсе выкананьня мясцовых бюджэтаў 1929-30 г. удакладненьні.

*Па разьдзелу XIII.* 1) § 2 гэтага разьдзелу дапоўнен артыкулам 2—„Субсыдыі на патрэбы індустрыяльных тэхнікумаў за кошт адлічэньняў ад прыбыткаў прамысловасьці“ (у 1929-30 г. субсыдыі гэтыя залічваліся па асобнаму параграфу ў разьдзеле XV).

2) Уключаны ўведзяныя ў гэты разьдзел у працэсе выкананьня бюджэтаў 1929-30 г. §§ 4 і 5.

*Па разьдзелу XIV.* Уключаны параграфы, якія ўведзены ў працэсе выкананьня бюджэту ў 1929-30 г. для залічэньня дапамог з спэцыяльных фондаў, якія былі створаны ў працягу 1929-30 г.

*Па разьдзелу XV.* 1) Уключан параграф, для залічэньня збору з арганізацый, якія загатаўляюць бавоўну; у 1929-30 г. збор гэты праводзіўся ў складзе субвенцыйных дапамог.

2) Уведзен уключаны ў працэсе выкананьня бюджэту 1929-30 г. § 5—„Ад прамысловасьці на расходы па мерапрыемствах, правадзімых па мясцовых бюджэтах“ з разьбіўкай гэтага параграфу на 3 артыкулы.

3) Разьдзел дапоўнен § 6—„За кошт паступленьняў мэтавых збораў на транспарце на патрэбы асьветы“. Параграф гэты ўведзен у зьвязку з пастано ай ЦВК і СНК СССР за 13 мая 1930 г. (З. З. СССР 1930 г. № 29, арт. 325), якая прадугледжвае разьмеркаваньне, пачынаючы з 1 кастрычніка 1929 г., паміж мясцовымі выканаўчымі камітэтамі 85% агульнай сумы паказаных мэтавых збораў. Разьмеркаваньне паміж мясцовымі выканкомамі 85% паступленьняў агульнай сумы мэтавых збораў на транспарце ўстанаўляецца ў парадку, які вызначаецца ўрадамі саюзных рэспублік.

85% агульнай сумы паступленьняў мэтавых збораў на транспарце разьмяркоўваюцца паміж мясцовымі выканаўчымі камітэтамі для пакрыцьця передаваемых ім расходаў па ўтрыманьні ў 1930-31 г. устаноў сацыяльнага выхаваньня і палітыка-асьветных, знаходзячыхся пад ведамам НКШ.

*Разьдзелы XVI-XVIII*—застаюцца бяз зьмен.

*Па разьдзелу XIX.* Разьдзел гэты ўведзен у працэсе выкананьня мясцовых бюджэтаў 1929-30 г. для залічэньня дапамог з фонду мэдычнай дапамогі застрахаваным, уключаемых па УССР і вопытных акругах у даход мясцовых бюджэтаў.

*Разьдзел XX*—застаецца бяз зьмен.

*Па разьдзелу XXI.* Разьдзел гэты ўведзян у працэсе выкананьня бюджэту 1929-30 г. для залічэньня спэцыяльных сродкаў, уключаемых у вопытных акругах у даход мясцовых бюджэтаў.

*Па разьдзелу XXII.* Разьдзел гэты ўводзіцца ў клясіфікацыю даходаў для залічэньня мэтавых дапамог калгасаў, передаваемых сельскім бюджэтам.

*Па разьдзелу XXIII.* Гэты разьдзел уводзіцца ў клясіфікацыю даходаў у зьвязку з уключэньнем у мясцовыя бюджэты сродкаў самаабкладаньня (гл. тлумачэньні да разьдзелу XXIII клясіфікацыі расходаў)

**Паст. 130. Абежнік пра парадак правядзеньня па мясцовых бюджэтах 1930/31 г. налічэньняў на зарплату, якая выплачваецца рабочым і служачым установ мясцовага бюджэту, на выплату органам сацстраху страхавых уносаў і мэтавай надбаўкі на патрэбы рабочага жылбудаўніцтва.**

На падставе прынятага НКФ СССР, па узгадненьні з Цэнтральным Кіраўніцтвам Сацстраху, рашэньня, з 1-га кастрычніка 1930 г. уводзіцца цэнтралізаваны парадак разрахункаў мясцовых бюджэтаў з органамі сацстраху па ўплаце ўносаў на сацыяльнае страхаваньне рабочых і служачых і мэтавай надбаўкі на патрэбы рабочага жылбудаўніцгва.

Інструкцыя аб парадку правядзеньня паказаных разрахункаў будзе разаслана ў бліжэйшы час пасьля атрыманьня яе ад НКФ СССР.

Пры складаньні-ж мясцовых бюджэтаў 1930/31 г. пакуль ня будзе атрымана паказаная інструкцыя, належыць у гэтым пытаньні кіравацца наступным:

1) Цэнтралізаваны парадак разрахункаў установ і прадпрыемстваў, знаходзячыхся на мясцовым бюджэце, з органамі сацстраху уводзіцца з 1-га кастрычніка 1930 г. як па зарплаце, якая выплачваецца па арт. 1, так і па зарплаце, якая выплачваецца па іншых артыкулах расходнай клясіфікацыі.

2) Пры складаньні бюджэтаў на 1930/31 год сумы прылічваючыхся органам сацстраху уносаў падлягаюць выключэньню з адпаведных артыкулаў, па якіх вылічваецца зарплата, і асыгнаваньні на ўплату гэтых уносаў павінны быць прадугледжаны па належнасьці, па § 1 (сацыяльнае страхаваньне рабочых і служачых па арт. 1) і па § 2 (сацыяльнае страхаваньне рабочых і служачых па іншых артыкулах) разьдзелу XX расходнай клясіфікацыі.

3) Асыгнаваньні, прадугледжаныя па §§ 1 і 2 разьдзелу XX, павінны вылічвацца арыентовачна з разрахунку сум, уключаемых у адпаведныя артыкулы мясцовых бюджэтаў на 1930/31 г., пры гэтым, у адносіне асыгнаваньняў, уключаемых у § 2 разьдзелу XX, належыць мець на ўвазе наступнае:

а) з сум зарплаты, якія выплачваюцца па арт. 3 (новае будаўніцтва) і арт. 4 (грунтоўны рамонт), адлічэньні на сацстрах па § 2 разьдзелу XX павінны прадугледжвацца толькі ў адносіне тых будаўнічых работ (у тым ліку і грунтоўны рамонт), якія ў 1930/31 г. адпаведнымі мясцовымі саветамі мяркуецца ажыцьцявіць непасрэдна (гаспадарчым парадкам), з зарплаты-ж па будаўніцтву, якое мяркуецца ажыцьцявіць праз гаспадарча-разрахунковыя будаўнічыя арганізацыі, асыгнаваньні на сацстрах не павінны ўключацца ў § 2 разьдзелу XX, паколькі па гэтаму будаўніцтву уключаныя ў бюджэт крэдыты перадаюцца мясцовымі саветамі ў распараджэньне будаўнічых арганізацый і адпаведныя разрахункі з сацстрахам па гэтых крэдытах будуць зроблены непасрэдна самімі будаўнічымі арганізацыямі;

б) сумы зарплаты, якія ўваходзяць у склад будаўнічых крэдытаў (п. „а") на 1930/31 г., павінны арыентовачна вызначацца на падставе выявіўшыхся на практыцы даных аб суадносінах сум зарплаты па будаўніцтву з агульным разьмерам крэдытаў на той ці іншы від будаўніцтва, а таксама з падлікам характару намячаемых мясцовым саветам у 1930/31 г. будаўнічых работ; найбольш мэтазгодным зьяўляецца арыентовачны разрахунак і вылучэньне сум зарплаты пры

складаньні адпаведных тэхнічных каштарысаў на будаўніцтва; з вызначанай у паказаным парадку арыентовачнай; сумы зарплаты па будаўнічых работах належыць вылічваць ва ўстаноўленым процанце разьмер асыгнаваньня на сацстрах у складзе § 2 разьдзелу XX.

4) Парадак разьлікаў з сацстрахам па зарплаце, выплачваемай са знаходзячыхся на мясцовым бюджэце гаспадарчых прадпрыемстваў (камунальных, сельска-гаспадарчых і інш.) і правадзімай па гэтых прадпрыемствах у складзе арт. 6 (эксплёатацыйна-аперацыйныя расходы), устанаўляецца згодай адпаведных мясцовых саветаў з органамі сацстраху, пры гэтым, ад агульнага правіла могуць дапушчацца адступленьні і разьлікі з сацстрахам па паказаных прадпрыемствах могуць не цэнтралізавацца і ўтварацца непасрэдна самімі прадпрыемствамі.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Начальнік Бюджэтнага Кіраўніцтва НКФ БССР *М. Кардашэнка.*

30 чэрвеня 1930 г.
№ 2001—3.

*Узгоднена з ЦКК—РСІ 22 чэрвеня 1930 г. і з ЦСПСБ 21 чэрвеня 1930 г.*

**Паст. 131. Інструкцыя пра арганізацыю рабочых брыгад садзейнічаньня фінансаваму апарату.**

1. Для прыцягнаньня пралетарскай грамадзкасьці да фінансавай працы, дяпамогі ў правядзеньні тых або іншых кампаній і абгляду аперацыйнай працы фінорганаў арганізуюцца сталыя брыгады садзейнічаньня фінансаваму апарату.

2. У гарадох і прамысловых раёнах брыгады камплектуюцца ў першую чаргу з рабочых тых прадпрыемстваў, якія шэфствуюць над фінансавымі ўстановамі, а ў сельскіх мясцовасьцях—з ліку калгасьнікаў, беднаты, батракоў і рабочых саўгасаў.

3. Фінансавыя органы зносяцца з партыйнымі і прафсаюзнымі арганізацыямі тых прадпрыемстваў, якія павінны даць удзельнікаў рабочых брыгад, наконт вылучэньня таварышоў для брыгад садзейнічаньня фінансаваму апарату і паведамленьня фінорганам сьпісу вылучаных.

4. Партыйныя і прафсаюзныя арганізацыі фінорганаў з свайго боку вылучаюць таварышоў для азнаямленьня вылучаных удзельнікаў брыгад з фінансавай працай, заканадаўствам і дырэктывамі па паасобных галінах працы.

5. Пасьля азнаямленьня з працай, удзельнікі брыгад атрымліваюць заданьні, групавыя або індывідуальныя, і актыўна ўдзельнічаюць у штодзённай фінансавай працы, ажыцьцяўляючы тым самым садзейнічаньне фінапарату па ўсіх галінах. Асабліва завастраецца ўвага брыгад на абкладаньне падаткам усіх відаў, на ліквідацыю нядоімачнасьці, на правядзеньне кампаній, на разгляд каштарысаў фінорганаў і на кантроль за іх выкананьнем.

6. Разам з тым брыгады праводзяць сыстэматычны агляд і кантроль працы фінорганаў па паасобных галінах у напрамку праверкі выкананьня дырэктыў Партыі і Ураду ў галіне фінансавай палітыкі, тэрмінаў выкананьня і якасьці выкананьня, выяўляюць дакладнасьць работы апарату, працаздольнасьць, дабрасумленнасьць і нагрузку паасобных працаўнікоў і агульную іх прыгоднасьць для апарату.

7. Аб выніках сваёй працы ўдзельнікі брыгад робяць даклады на паседжаньнях адказных працаўнікоў і на агульных сходах працаўнікоў фінансавага апарату і робяць справаздачы аб сваёй працы на агульных сходах рабочых сваіх прадпрыемстваў.

8. Прапановы, прынятыя фінорганамі па докладах рабочых брыгад, бяруцца на падлік і назіраньне за іх выкананьнем ажыцьцяўляецца ў агульным парадку кантролю выкананьня.

9. Пасьля сканчэньня працы брыгад адміністрацыя і партячэйка фінансавых установ сумесна з адпаведнымі арганізацыямі тых прадпрыемстваў, дзе складзены брыгады, высьвятляюць пытаньне аб актыўнасьці і зацікаўленасьці працай паасобных таварышоў з рабочых брыгад з мэтай замацаваньня некаторых з іх у фінорганах на сталай працы.

10. Вылучаныя члены брыгад сваю работу праводзяць, як правіла, у свой непрацоўны час. У паасобных выпадках, калі гэта выклікаецца патрэбаю, частка рабочых можа быць, па ўзгадненьні з прадпрыемствам, скарыстана і ў іх працоўны час, з аплатай ім фінорганамі сярэдняга іх заработку.

11. Уся праца па арганізацыі рабочых брыгад, дапамозе ім і па кіраваньню іх працай павінна праводзіцца як адміністрацыяй, так і грамадзкасьцю (партячэйка, мясцком), якая ў першую чаргу павінна сачыць за выкананьнем прапаноў рабочых.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

Загадчык Адміністрацыйна-Арганізацыйнага Аддзелу
НКФ БССР *Б. Спарыхін.*




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Друкарня БАН. Зак. № 3024. Галоўлітбел № 1572. Тыраж 5300 экз. $2^1/_2$ арк.

Цана 30 кап.

# АБВЕСТКА

Установам і асобам, якія атрымоўваюць Збор Законаў і Загадаў БССР і Бюлятэнь СНК БССР за плату і якія падпісаліся на гэтыя выданьні толькі на паўгода, г. зн. да 1 ліпеня 1930 г., высылка паказаных выданьняў з 1 ліпеня будзе спынена.

Калі хто з паказаных падпішчыкаў жадае працягнуць тэрмін падпіскі, ён павінен да 1 ліпеня г. г. унесьці належачую за другое паўгодзьдзе падпісную плату:

| | | |
|---|---|---|
| За Збор Законаў | . . . | 5 руб. — |
| За Бюлятэнь СНК | . . . | 2 руб. 50 к. |

Падпіска як гадавая, так і паўгадавая (з 1 студзеня або з 1 ліпеня) на 1930 г. прадаўжаецца. Гадавая падпісная плата па першаму выданьню — 10 р., а па другому — 5 руб. За альфабэтна-прадметныя паказчыкі даплачваецца дадаткова па 75 кап.

Падпіску і грошы накіроўваць:

г. Менск, Чырвонаармейская, 3, Інфармац.-Выдав. Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭН БССР.

Падпіску прымаюць таксама пісьманосцы, усе паштовыя ўстановы і кнігарні БДВ.